Лідзія САВІК

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС
## БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА

Лідзія САВІК

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА

МІНСК, 1993 г.

Кніжка Лідзіі Савік «Вяртанне» прысвечана пакручастаму і слаўнаму шляху вялікага вучонага беларуса Барыса Кіта. Пражыўшы больш за палову жыцця ўдалечыні ад радзімы, ён праславіў яе выдатнымі навуковымі адкрыццямі ў галіне астранаўтыкі, заваяваў прызнанне і павагу найвыдатнейшых вучоных свайго часу.

*Кніга выдадзена за кошт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"*

**Я МАЮ КРАЙ, РАДЗІМУ ДУМ СВАІХ...**

**Адам Міцкевіч.**

# УСТУП

*Беларуская зямля дала свету многія таленты, да якіх належыць і Барыс Уладзіміравіч Кіт. Ён з тых людзей, што ствараюць гонар любой нацыі ў любой краіне. На Беларусі да нядаўняга часу яго імя было амаль невядомым. Сёння мы павінны ўвесці навуковы, асветніцкі, жыццёвы набытак славутага ва ўсім свеце чалавека, які прываблівае не толькі як навуковец, але і як Асоба, патрыёт Бацькаўшчыны, у нашу нацыянальную гісторыю.*

*Упершыню я ўбачыла Барыса Уладзіміравіча ў доме Масея Сяднёва пад Нью-Йоркам у Глен-Кове, куды ён заехаў на Каляды пад Новы 1992 год праведаць даўняга сябра, знакамітага беларускага паэта на эміграцыі, калі кіраваўся з Франкфурта ў Вашынгтон да сыноў Валодзі і Віктара, унучкі і праўнука, вельмі падобнага на свайго прадзеда. Мяне ўразіў малады, рухавы, абаяльны Барыс Уладзіміравіч, яго імклівая гаворка на чыста беларускай мове, уменне з матэматычнай дакладнасцю сказаць асноўнае пра сябе і незвычайна зацікавіць субяседніка менавіта гэтай сціплай недасказанасцю, за якой стаяла, адчувалася, вялікае жыццё. Як было радасна пачуць, знаходзячыся так далёка ад свайго дому, роднае слова, даведацца, што гэта твой зямляк, які не быў на Бацькаўшчыне паўвека, але так закаханы ў Навааградчыну, сапраўды найпрыгажэйшы куток Беларусі, што даў свету такія таленты, як Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Янка Нёманскі, Янка Брыль... Барыс Кіт — адзін з іх, і ён марыць зрабіць Навагрудак універсітэцкім горадам, накшталт Оксфарда ці Кембрыджа...*

*Барыс Уладзіміравіч спяшаўся ў Вашынгтон, і ў мяне было замала часу, каб падрабязна распытаць, даведацца пра ягоны*

*лёс. Але гэта была не апошняя наша сустрэча. Улетку 1992 года ўпершыню пасля 50-гадовага перапынку ён наведаў Бацькаўшчыну, дзе аказалася шмат яго вучняў, знаёмых, родных людзей, якія рады былі вітаць Барыса Кіта ў Маладзечне, Міры, Карэлічах, Наваградку, Мінску... Ускалыхнулася мінулае, пайшлі ўспаміны, задаваліся пытанні, і нястомны Барыс Уладзіміравіч не паспяваў адказваць, успамінаць, зноў знаёміцца з тымі, каго ведаў яшчэ ў дзяцінстве, юнацтве, падчас працы ў беларускім школьніцтве... «Проста не верыцца, што я мог прыехаць да вас, — гаварыў ён на сустрэчы. — Для мяне гэта найвышэйшы і найважнейшы момант усяго майго жыцця, вярнуцца на Бацькаўшчыну — Беларусь, дзе я правёў найлепшую яго частку — маладыя гады. Так сталася, што я, як і многія іншыя беларусы, у пэўным часе змушаны быў выехаць на чужыну, каб ратаваць сваё біялагічнае існаванне. Але на чужыне мы ніколі не забывалі сваёй Радзімы, праносілі яе слаўнае імя ў свет і рабілі для яе карысці ўсё, што толькі было магчымым. На жаль, нас ужо вельмі мала засталося, і я сябе лічу «апошнім з магіканаў», маё пакаленне ўжо адыходзіць. Многія не дачакаліся гэтага шчаслівага моманту, калі пачаўся вялікі рух Адраджэння, і многія эмігранты — расійцы, украінцы, балтыйцы — атрымалі сёння магчымасць прыехаць на Бацькаўшчыну, якая стала незалежнай. І мы сёння адзначаем не толькі свята сустрэчы нашай славутай школы, але і Адраджэнне нашай дарагой і любімай Бацькаўшчыны. Безумоўна, цяжкасці заўсёды бываюць напачатку, але я веру: пройдзе нейкі час, наша Беларусь разаўецца ў паўнацэнную, культурную, эканамічна моцную, незалежную дзяржаву, якая зойме пачэснае месца сярод народаў свету».*

*Гэта вера захапіла ўсіх, хто слухаў чалавека, пражыўшага доўгае, складанае і цікавае жыццё, багатае на выпрабаванні, здабыткі, падзеі, сустрэчы. Ён вярнуўся на Бацькаўшчыну, каб падтрымаць сваіх землякоў у цяжкі час выбару, апантаны, як і ўсе сведамыя беларусы, ідэямі адраджэння нацыі.*

*Так здарылася, што і на гэты раз не хапіла Барысу Уладзіміравічу часу з-за шматлікіх сустрэч, каб адказаць на мае пытанні, падрабязна расказаць пра сваё жыццё.*

*І вось у кастрычніку 1992 года я мела магчымасць наведаць Барыса Уладзіміравіча ў Германіі, у Франкфурце-на-Майне, па яго ветліваму запрашэнню. Нішто ўжо не перашкаджала слу-*

*хаць, запісваць найцікавейшы аповяд пра незвычайны лёс чалавека з агромністага касмічнага карабля «Зямля», які шмат зрабіў, каб гэты карабель вырваўся ў сусвет.*

*Дзякуючы яму, я пабывала ў славутых тургенеўскіх мясцінах Вісбадэна, у Бадгомбургу, дзе калісьці не адзін раз бываў Дастаеўскі, пабачыла радавое гняздо апошняй рускай імператрыцы Аляксандры Фёдараўны ў Дармштаце, старажытныя рыцарскія замкі, палацы, музеі, гадзінамі хадзіла па вуліцах Франкфурта, па Дому-музею Гётэ, да болю ў сэрцы дзівячыся, якое ўладкаванае, прыгожае і багатае жыццё, у адрозненне ад нашага, пераможаных намі пераможцаў... Але што руская і германская гісторыя, калі побач знаходзіўся беларус, які здолеў даказаць, што ён нічым не горшы за амерыканцаў, еўрапейцаў, чалавек глыбокіх і markdown рознабаковых ведаў, з выдатнай памяццю на даты, сусветную гісторыю, людзей, літаратуру... І толькі аднойчы, калі Барыс Уладзіміравіч прачытаў мне цытату з «Веснавых вод» Тургенева (дзеянне адбываецца ў Вісбадэне, Санін — герой тургенеўскага твора задумваецца аб старасці, а яму ўсяго 52 гады), мне падалося, што ён успомніў аб сваіх 82 гадах. Аднак усе, хто сутыкаецца з Барысам Уладзіміравічам, разумеюць: старасць да яго яшчэ не прыйшла, аптыміст па натуры, добразычлівы да людзей, дзейны, мэтанакіраваны, ён напоўнены шчасцем вяртання на Бацькаўшчыну і жаданнем зрабіць для яе ўсё, што ў яго моцы. Закаханы ў сваю Джэму — Тамару, прыгожую, па-еўрапейску адукаваную жанчыну, з якой больш дваццаці год звязаны духоўнай еднасцю і з якой пабываў у многіх краінах свету, ён ідзе па жыцці, па тых мясцінах, дзе любілі, пакутавалі тургенеўскія героі, руская арыстакратыя... Барыс Уладзіміравіч упэўнены, што ён і ёсць арыстакратыя — арыстакратыя духу, інтэлекту, а гэта нашмат мацней той, што губляла свае сілы, сродкі на модных еўрапейскіх курортах. І ён багаты і шчаслівы ад усведамлення, што не марна пражыў жыццё, годна несучы ў сэрцы Беларусь, не забываючы матчыну мову, не здраджваючы святому ў душы. Ён змог пабудаваць свой лёс так, што рана дасягнуў піка вучонасці, але і да гэтага часу застаецца верным свайму прызванню настаўніка, педагога і з асаблівым гонарам гаворыць пра слынных у свеце людзей: «Гэта мой вучань...» А можа шчаслівы таму, што ганарыцца сынамі, якім аддаў усё самае лепшае, што меў у жыцці, і цяпер не адчувае адзіноцтва, ці магчыма*

*таму, што яго імя і добрыя справы вяртаюцца на Радзіму, ад якой быў адарваны столькі гадоў? А можа ад складу свайго беларускага характару — бескарыслівага, шчырага, цярплівага, адкрытага, заўсёды гатовага рабіць людзям дабро... Гэтыя думкі ўзнікалі ў мяне падчас нашых вандровак па Германіі, дзе я часам ледзь паспявала за маладым, бадзёрым крокам Барыса Уладзіміравіча і за яго цікавымі апавяданнямі пра нямецкую гісторыю, не перастаючы здзіўляцца ягонай памяці, грунтоўным, шырокім ведам і асабліва тым спакойным адносінам да сказачнай прыгажосці Нямеччыны, за якімі стаіць жыццёвы вопыт чалавека, што аб'ехаў і пабачыў увесь свет — стары і новы — Еўропу, Амерыку, Індыю, Японію, Інданезію, Афрыку, Егіпет, Ганконг, Стамбул, які жыў у Вашынгтоне і Лос-Анджэлесе, ведаў знакамітых вучоных — нямецкіх, амерыканскіх, рускіх, японскіх, якія стваралі касмічныя караблі і ракеты, матэматыкаў і фізікаў з сусветнымі імёнамі, таму што сам прысвяціў гэтым навукам жыццё, хаця не меншы талент меў у гісторыі, жывапісе, захапляўся класічнай музыкай і літаратурай, ніколі не ўступаў ні ў якія партыі, верыў, што душы памёрлых добрых людзей перасяляюцца ў жывых, нават падобныя да іх знешне. У гэтым ён пераканаўся, сустрэўшы аднойчы на вуліцы жанчыну, якая была як дзве кроплі вады падобная на яго першае каханне — дзяўчыну з Беларусі, загінуўшую ў пекле вайны...*

*Хто ж ён, гэты рамантык?*

*Барыс Кіт — матэматык, фізік, хімік, доктар філасофскіх навук у галіне матэматыкі і гісторыі навукі, акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, старэйшы сябра Амерыканскага Астранаўтычнага Таварыства, ганаровы сябра Брытанскага Міжпланетнага Таварыства, сябра Дырэктарыяту Нямецкага Астранаўтычнага Таварыства, сябра Камітэта Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (Парыж). Ён заслужаны прафесар Мэрылендскага універсітэта (ЗША), залаты медаліст Нямецкага Таварыства імя Германа Обэрта. Высока ацэнены ва ўсім навуковым свеце, ён вяртаецца на сваю радзіму — Беларусь, дзе пра яго да апошняга часу нават не ўспаміналася. Але ён, не трымаючы крыўды ў сэрцы, перапоўнены жаданнем адкрыць на Беларусі нацыянальны універсітэт, бо адсюль пачынаўся яго шлях у вялікае жыццё, шлях таленавітага педагога, вучонага, які аддае свае веды людзям у літа-*

***ральным сэнсе слова, бо, дасканала валодаючы ангельскай, нямецкай, французскай, польскай, рускай, украінскай, беларускай мовамі, ён у любым асяроддзі, з кожным чалавекам пачувае сябе лёгка і нязмушана, можа знайсці агульныя зацікаўленні і ўзаемаразуменне. Ён захаваў сваю беларускасць, народную, сялянскую разважлівасць, цярпімасць да розных палітычных поглядаў, што існуюць у адраджэнскім руху. Яго жыццё цесна знітавана з гістарычнымі падзеямі XX стагоддзя, жыццём беларускага народа, шляхамі-пуцявінамі беларускага інтэлігента, навукоўца, які, дзякуючы сваім прыроджаным здольнасцям, змог выйсці на сусветную арэну, захаваўшы вернасць нацыянальнаму духу, вернасць Бацькаўшчыне, якая зноў паклікала яго, як запавет, як памяць.***

# НАШЧАДАК СЯЛЯНСКАГА РОДУ

З дзядоў і прадзедаў Барыс Кіт паходзіць з вёскі Агароднікі Карэліцкай воласці Наваградскага павета (цяпер Агароднікі Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці Беларусі). Вёска Агароднікі сёння — прыгарад мястэчка Карэлічы, што ляжыць на вялікім шляху Вільня — Мінск, прыгожа абсаджаным вялікімі бярозамі яшчэ ад часоў расійскай імператрыцы Кацярыны Другой. Шлях Вільня — Мінск праз Карэлічы быў выбраны Пятром Вялікім падчас яго падарожжа ў Заходнюю Еўропу. Ён прыпыняўся ў Карэлічах, начаваў у хаце спадара Абяржанскага ў самым цэнтры мястэчка. Раней Карэлічы славіліся фабрыкай слуцкіх паясоў. Будынак гэтай фабрыкі яшчэ захаваўся ў тыя гады, калі сям'я Кіта пасля заканчэння першай сусветнай вайны жыла ў доме паблізу гэтай фабрыкі. Карэлічы, як і вёска Агароднікі, былі славутыя сваімі агародамі з агуркамі, якія вырошчваліся на экспарт.

Дзед Барыса Уладзіміравіча — Аляксандр Кіта (дарэчы, кіта азначае вязанка, ахапка сена. Усе крэўныя вучонага носяць прозвішча Кіта, у прозвішчы Барыса Уладзіміравіча апошняе «а» праз шматлікія пераезды, перааформленні дакументаў неяк выпала, згубілася, і ён вядомы як Кіт) меў невялікую гаспадарку ў Агародніках (каля 4-х гектараў зямлі), якая была падзелена на дзве роўныя

часткі паміж двума сынамі — Міхасём і Уладзімірам. З-за недахопу сродкаў для ўтрымання сям'і, якая складалася з 7 чалавек — бацька, маці, два сыны, тры дачкі — Юлія, Вольга і Ганна, — дзед вымушаны быў шукаць дадатковага заробку ў суседнім, за 7 кіламетраў, маёнтку графа Храптовіча ў Шчорсах над ракой Нёман. Гэты маёнтак славіўся агромністай па тым часе бібліятэкай, дзе былі кнігі па розных галінах ведаў і на розных мовах. Бібліятэкарам тут працаваў Ян Чачот, яе кнігамі часта карыстаўся Адам Міцкевіч, калі жыў у Наваградку. Натхнёны незвычайнай прыгажосцю Шчорсаў, цудоўным паркам, што прывольна раскінуўся на берагах Нёмана, вялікі паэт напісаў нямала твораў, прысвечаных гэтаму краю. Палац Храптовічаў згарэў у полымі рэвалюцый і войнаў, захаваўся толькі будынак бібліятэкі (кнігі яе нейкім чынам трапілі ў Кіеў, цяпер частка іх перададзена ў бібліятэку Гродзенскага універсітэта), растуць старыя дубы ў парку, бярозы на бальшаку, адрэстаўрыравана царква, у якой часта на малебнах бываў Аляксандр Кіта. Ён пачаў працаваць у графа Храптовіча звычайным парабкам, але, дзякуючы сваім гаспадарчым здольнасцям, добрасумленнаму і добразычліваму характару, у хуткім часе становіцца адміністратарам. З падросшых дзяцей Алянсандра Кіта двое — Юлія і Уладзімір (бацька будучага акадэміка) выехалі ў пошуках долі і шчасця ў сталіцу Расійскай імперыі — Санкт-Пецярбург, другі сын — Міхась застаўся жыць на гаспадарцы ў Агародніках, а дзве дачкі — Вольга і Ганна выйшлі замуж у суседнія вёскі.

Пасля пераезду Уладзіміра Кіта (ён скончыў сярэднюю школу) у Пецярбург на пачатку XX стагоддзя яму давялося шмат працаваць і адначасова вучыцца, набываць нейкую прафесію, прыстасоўвацца да гарадскіх умоў жыцця. Ён паступіў на курсы сувязістаў і пасля заканчэння гэтых студыяў уладкаваўся ў міністэрства пошт і тэлеграфаў. Яго паслалі на працу ў мястэчка Шувалава, якое знаходзілася на мяжы з Фінляндыяй. На гэты час Уладзімір Кіта

ажаніўся з Ксеніяй Дзмітраўнай Зуравай, якая паходзіла з сялян вёскі Тупікава Кашынскага павета Цвярской губерні і таксама прыехала на працу ў Пецярбург. Тут, у доме на Сувораўскім праспекце, у іх і нарадзіўся сын-першынец Барыс — 24-га сакавіка (6-га красавіка) 1910 года. Хрышчэнне яго адбылося ў царкве Смольнага манастыра.

Санкт-Пецярбург быў на той час не толькі расійскай сталіцай, цэнтрам расійскага грамадскага жыцця, але і своеасаблівым беларускім цэнтрам, куды на вучобу і працу прыязджалі многія юнакі і дзяўчаты з Беларусі. Тут на агульнаадукацыйных курсах Чарняева вучыўся Янка Купала, у Пецярбургскім імператарскім універсітэце вучыліся Янка Нёманскі (дарэчы, ураджэнец Шчорсаў), Р. Астроўскі, працаваў Цішка Гартны, жылі браты Іван і Антон Луцкевічы, для землякоў з Беларусі былі шырока расчынены дзверы гасціннага дома прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. У Пецярбургу была арганізавана першая беларуская палітычная партыя — Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ), на чале якой стаяў Іван Луцкевіч (ён студыяваў юрыспрудэнцыю і археалогію ў Пецярбургу). Барыс Кіт тады быў яшчэ дзіцем, дапытлівым падлеткам, які толькі пачынаў уваходзіць у дарослае жыццё, вучыўся разумець рэчаіснасць, людзей, падзеі. Яго дзіцячая памяць захавала многія моманты жыцця ў Пецярбургу і яго ваколіцах. Бацька ў вольныя часы браў сына на вандроўкі, падчас якіх паказваў найбольш выдатныя, велічныя будынкі, палацы, саборы, плошчы і вуліцы славутага горада на Няве, пабудаванага Пятром Першым і высілкамі многіх простых людзей, у тым ліку і беларусаў. Найлепш хлопчыку запомнілася Петрапаўлаўская крэпасць, дзе ён пабачыў грабніцы памёрлых імператараў, імператрыц, з якіх найбольшае ўражанне зрабіў пахавальны склеп Пятра Першага.

Калі жылі ў Шувалаве, бацька, заядлы рыбак, далучаў сына да гэтага карыснага занятку. І назаўсёды адбілася ва ўражлівай дзіцячай памяці незвычайная прыгажосць

шматлікіх азёр і рэчак маляўнічых прыгарадаў сталіцы. Нездарма, мусіць, гэтыя карціны пасадзейнічалі таму, што пазней у гімназіста Барыса Кіта адкрыўся талент мастака-жывапісца, сфарміраваліся гуманітарныя здольнасці будучага матэматыка, яго любоў да сусветнай класічнай літаратуры, прыгожага пісьменства, музыкі, схільнасць да вывучэння моў, гісторыі. Неаднойчы ўся сям'я ездзіла ў суседняе Паргалава, найчасцей у залатыя восеньскія дні, найпрыгажэйшыя ў цудоўных ваколіцах Пецярбурга, а то і проста ў лес па грыбы і ягады.

Фінляндыя належала тады да Расіі як вялікае княства. І ўжо ў сталыя гады, калі Барыс Уладзіміравіч наведваў Фінляндыю, яму часта прыгадвалася маленства, ён і цяпер бачыў расійскія ўплывы, у Хельсінкі асабліва, дзе шмат расійскіх помнікаў, будынкаў, сабораў, цэркваў. А тады, дзякуючы пастаянным камандзіроўкам бацькі, сям'я мела магчымасць праводзіць канікулы ў Фінляндыі, жыць там па некалькі месяцаў. Гэты перыяд згадваецца Барысу Уладзіміравічу як спакойныя, цікавыя імгненні хутка праляцеўшага бесклапотнага, шчаслівага дзяцінства, атуленага бацькоўскім клопатам, гармоніяй акаляючай прыроды, што закладвала добрыя пачаткі ў душы дзіцяці. Ідылія гэтага жыцця (у дзіцячым успрыманні) была спынена, калі пачалася Лютаўская рэвалюцыя 1917 года і хутка пасля яе адбыўся бальшавіцкі кастрычніцкі пераварот. У гэтым часе бацька зноў вярнуўся на сваю старую службу ў Пецярбургу, і сям'я (дарэчы, меншы сын Кітоў — Юры, які нарадзіўся ў Шувалаве, на жаль, памёр і быў пахаваны на мясцовых могілках) пасялілася ў кватэры на Шамшавай вуліцы, якая перасякаецца з Вялікім праспектам. Уражлівая памяць Барыса Кіта захавала асобныя, найбольш яскравыя сцэны рэвалюцыйных падзей 1917 года ў Пецярбургу: яны з маці былі аднойчы на Марсавым полі і назіралі пахаванне ахвяр Лютаўскай рэвалюцыі, у агромністым натоўпе лунапі чырвоныя сцягі і гучаў Інтэрнацыянал. Але на ўсё жыццё з тым успамінам захавалася ад-

чуванне холаду, ад якога пакутавала ўся істота хлопчыка, і ён не мог дачакацца, калі яны вернуцца дамоў, у хатняе цяпло, каб пазбыцца гэтага відовішча. Як прыгадваецца Барысу Уладзіміравічу цяпер, Кастрычніцкая рэвалюцыя, якую здзейснілі бальшавікі, адбылася без асаблівага розгласу, многія яе нават не заўважылі і апамяталіся толькі тады, калі пачаўся страшэнны голад і людзі паміралі літаральна на вуліцах. Бацька пазней расказваў, што яму немагчыма было трапіць на працу з-за баёў паміж рэвалюцыянерамі, жандарамі і казакамі, якія часцей за ўсё адбываліся на мастах праз Няву, і ён вымушаны быў наймаць лодку, каб пераправіцца праз раку і своечасова трапіць на работу, бо штодня мусіў быць там, як спецыяліст па замежнай тэлеграфнай сувязі. Маці пачала часцей наведвацца ў вёску да сваіх бацькоў, каб здабыць нешта з прадуктаў, нават пры пагрозе быць расстралянай, таму што бальшавіцкімі камітэтамі было забаронена перавозіць харчы. Але яе гэта не спыняла. Аднойчы яна ўзяла з сабой і сына, каб пакінуць яго ў вёсцы, дзе пакуль што не галадалі. У вёску Тупікава трэба было ехаць спачатку па старанікалаеўскай чыгунцы Пецярбург — Балагое — Разань, выходзіць на станцыі Кашын. Гэты рускі горад запомніўся сваімі драўлянымі дамамі з разнымі аздобамі на ваканіцах, фігурамі расійскіх сялян з вялікімі акладзістымі барадамі. Яны хадзілі па чыстых, утульных вуліцах у доўгіх белых кашулях, падпяразаных рознакаляровымі паскамі. У вёску ехалі на падводзе, і вось яна адкрылася з пагорка — незвычайна прыгожае, вялікае паселішча, у цэнтры якога ўзвышалася шматкупальная царква, блакітам разлівалася возера.

Але ў вёсцы маці не пакінула сына, вярнуліся яны ў халодны і галодны Пецярбург, каб у такі трывожны, цяжкі час быць усім разам. У гэтыя галодныя гады вельмі быў прыдатны бацькаў рыбацкі вопыт, яны часта з сынам лавілі вудай рыбу, што было немалой падтрымкай для сям'і. І ўсё ж гэта не выратоўвала, здабываць харчаванне станавілася

цяжэй і цяжэй. І бацька вырашыў адправіць сына з жонкай на сваю радзіму Беларусь, у Агароднікі, нягледзячы на небяспеку такога падарожжа. Яно адбылося дакладна так, як гэта апісана ў рамане Барыса Пастэрнака «Доктар Жывага» і паказана ў аднайменным амерыканскім фільме паводле рамана рускага пісьменніка. Там ёсць сцэна: цягнік набірае хаду, і ў апошні момант на прыступку перапоўненага людзьмі таварнага вагона ўскоквае чалавек. Ён просіцца ў вагон, але азлобленыя пасажыры спіхваюць яго пад поезд, на рэйкі. Іменна гэтую жудасную сцэну назіраў малы Барыс, едучы з маці на Беларусь. Гэта быў канец 1918 года. З імі разам ехаў дзядзька Міхась з сынам Паўлам і дачкой Надзяй. З вялікімі цяжкасцямі дабраліся да Мінска, дзе можна было нешта купіць з яды, на якую накінуліся зגаладалыя падарожнікі. Да вёскі даехалі фурманкай і напачатку пасяліліся ў цёткі Вольгі, сям'я якой жыла ў Сапатніцы, што за 10 кіламетраў ад Агароднікаў. Маці вымушана была вярнуцца ў Пецярбург, пакінуўшы васьмігадовага сына на клопаты цёткі. Гэта быў вельмі цяжкі перыяд і для Беларусі. Голад панаваў усюды. Дзеці хадзілі на памешчыцкае поле, збіралі гнілую бульбу, крапіву, лебяду, гатавалі нейкае варыва. Ад голаду і дрэнных умоў у параўнанні з пецярбургскай кватэрай, тугі па бацьках хлопчык часта хварэў. Але маці з бацькам хутка вярнуліся з Пецярбурга, і ўсе разам пераехалі жыць у Карэлічы. Спачатку туліліся па кватэрах, пакуль не збудаваў бацька хату на сваім надзеле зямлі, што застаўся ад гаспадаркі дзеда ў Агародніках. І хоць хата была яшчэ недабудаванай, без падлогі, але гэта быў свой прытулак без якога чалавеку жыць у вёсцы нельга. Нядоўга пагаспадарыла ў новай хаце Ксенія Дзмітраўна, яе хворае сэрца не вытрымала цяжкіх выпрабаванняў, якія выпалі на долю сям'і і якія былі абумоўлены рэвалюцыйнымі ўзрушэннямі, грамадзянскай вайной. Яна памерла ў 1920 годзе зусім маладой, трыццацігадовай, пакінуўшы адзінага сына, які вельмі любіў маці, быў прывязаны да яе душою. Гэта было

вялікае гора для дзесяцігадовага хлапчука. Воблік роднай маці, маладой, прыгожай, назаўсёды застаўся ў яго сэрцы. Бацьку, вядома ж, немагчыма было аднаму спраўляцца з гаспадаркай, і ён праз некаторы час ажаніўся другі раз з мясцовай жанчынай Аленай Швед, якая паходзіла з вёскі Валеўка, што ля возера Свіцязь. Гэта была працавітая, спагадлівая душой беларуская сялянка, яна стала не мачахай, а другой маці асірацеламу падлетку. Неўзабаве ў Барыса паявіліся брат і сястра (цяпер брат Барыса Уладзіміравіча — Лявон Уладзіміравіч Кіта жыве ў Мінску, сястра — Ірына Уладзіміраўна Вярбіцкая — у Карэлічах).

На Беларусі ў 1919—1920 гадах ішла польска-савецкая вайна, наша зямля зноў апынулася на перакрыжаванні вынішчальных ваенных дзеянняў. Вайна з белапалякамі скончылася Рыжскім пагадненнем. Па яго ўмовах да Польшчы адыходзіла вялікая частка Заходняй Беларусі, якую палякі называлі «крэсы ўсходнія». Агароднікі таксама апынуліся пад Польшчай, урад якой многія беларускія сялянскія і памешчыцкія землі аддаў польскім каланізатарам-асаднікам. Бедныя сяляне-беларусы вымушаны былі ісці працаваць да іх парабкамі, бо малазямельныя гаспадаркі забяспечвалі толькі напаўгалоднае існаванне.

Сям'я Кіта, маючы невялікі надзел зямлі, цяжка і шмат працавала, каб неяк зводзіць канцы з канцамі. Барыс дапамагаў бацьку ўсім, чым мог у свае гады. Гэта было звычайнае жыццё вясковага падлетка, які заўсёды быў заняты нялёгкімі сялянскімі справамі: пасвіў карову, каня, даглядаў за малодшымі дзецьмі, калі бацькі былі ў полі ці куды ад'язджалі з дому. Зімою працы было менш, і бацька вучыў сына першай грамаце. Дзякуючы прыроджаным здольнасцям, ён хутка навучыўся чытаць, пісаць, асабліва ўпадабаў арыфметыку і ў 1924 годзе паступіў адразу ў 4-ты клас мясцовай польскай школы, бо беларускай тады не было. Вучыўся выдатна, выказваючы асаблівую прыхільнасць да малявання. Яго малюнкі выстаўляліся на мастацкай выстаўцы ў Познані. На гэта звярнуў увагу сам ды-

рэктар школы Дулемба і, прагледзеўшы разам са школьным інспектарам малюнкі Барыса Кіта, абяцаў выстарацца для яго стыпендыю ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. На жаль, з гэтага нічога не атрымалася. Дулемба ануляваў свае абяцанні пасля аднаго здарэння. Справа ў тым, што адным з настаўнікаў школы быў беларус Сцяпан Рамановіч. Ён выкладаў матэматыку, а каб больш зразумелай і даходлівай была для вучняў гэта складаная навука, часта выкарыстоўваў прыклады з акаляючага сялянскага жыцця. Ён не любіў палякаў, асабліва асаднікаў, лічыў іх дрэннымі гаспадарнікамі, і ўсе яны ішлі ў яго пад адмоўным знакам. Крытычна настроены і неасцярожны настаўнік пачаў аднойчы ўрок аб дадатных і адмоўных лічбах такім чынам: выклікаў да дошкі Барыса Кіта, як лепшага ў матэматыцы вучня. «Кіта, уяві, што ты ёсць польскі асаднік на Беларусі. Увосень ты нажаў пэўную колькасць жыта. Як робяць пераважна асаднікі, ты паленаваўся, не змалаціў яго, а проста вывез у мястэчка і прадаў за пэўную колькасць злотых, ну няхай за 500. Дзеля таго, што гэта быў твой чысты прыбытак, дык паставім перад гэтай лічбай +. Атрымаўшы гэтыя грошы, ты пайшоў у карчму і парадкам выпіў гарэлкі, ну, скажам, на 50 злотых, таму паставім перад 50 знак —». Гэткім спосабам настаўнік уводзіў алгебраічныя паняцці дадатных і адмоўных лікаў.

Усё было б ціха, каб прысутныя на ўроках дзеці польскіх асаднікаў не расказалі бацькам, а тыя не пайшлі да дырэктара і не пачалі скардзіцца, як настаўнік Рамановіч зневажае на сваіх уроках усё польскае асадніцтва. У выніку пачалося следства — прыехала вышэйшае школьнае начальства, пачало выклікаць вучняў на допыт, і найперш Барыса Кіта. Аднак беларускія вучні вырашылі не выдаваць свайго настаўніка. Барыс Кіт на допыце запярэчыў супраць абвінавачванняў Рамановіча, і настаўніка не маглі звольніць з працы, але перавялі ў іншую школу. Для Барыса Кіта гэта абарона Рамановіча скончылася тым, што яму не далі абяцаную стыпендыю для вучобы ў Акадэміі

мастацтваў. Кар'ера магчымага мастака была спынена на самым пачатку. Аднак гэта падзея мела і свой працяг. Настаўнік Рамановіч у падзяку сваім вучням-беларусам Кіту, Васілеўскаму, Вярбіцкаму і Гоцку вырашыў «сплаціць даўгі» — падрыхтаваць іх у час летніх вакацыяў да паступлення ў Наваградскую беларускую гімназію. Гэтыя летнія сумесныя заняткі яшчэ больш зблізілі настаўніка і вучняў, аб'ядналі іх у імкненні падтрымліваць адзін аднаго, што не раз потым здаралася, калі Барыс Кіт ужо працаваў інспектарам школ, а Рамановіч — звычайным настаўнікам. Так выпрацоўвалася ў юнакоў, якія толькі ўступалі ў жыццё, нацыянальная самасвядомасць, пачаткі беларускасці, высокага патрыятызму, чалавечай годнасці.

Добрасумленна і грунтоўна падрыхтаваныя Барыс Кіт і яго сябры паступілі ў шосты клас Наваградскай беларускай гімназіі. Гэта быў верасень 1926 года.

Выключна цікавай і павучальнай была гісторыя Наваградскай беларускай гімназіі. Яна праіснавала 15 гадоў, але пакінула вялікі след у гісторыі краю. Яна дала нямала беларускіх патрыётаў, шчырых і адданых прыхільнікаў роднай зямлі, Бацькаўшчыны, што было вельмі няпроста: таталітарная сістэма не толькі не садзейнічала, але як магла вынішчала нават непрыкметныя парасткі нацыянальнай свядомасці беларусаў (ды і не толькі іх). Гімназія стала роднай і любімай для вучняў, а не казённай і варожай Бацькаўшчыне і мове. Мясціліся яе класы ў старым будынку на рыначнай плошчы Наваградка. Заняткі адбываліся ў другую змену, у першую тут займалася яўрэйская школа. Беларускамоўныя класы пачалі працаваць ужо ў 1921 годзе. У польскай гімназіі трэба было плаціць 300 злотых у год, а 50 злотых каштавала карова, пуд жыта — 2 злотых. Таму бацькі, нават заможныя, не маглі пасылаць туды сваіх дзяцей. Адкрыццё беларускіх гімназій было жыццёва неабходнай справай. Гімназія існавала на складкі бацькоў, без ніякіх дзяржаўных датацый, і таму не ўсе настаўнікі мелі магчымасць атрымліваць зарплату. Дырэк-

тар гімназіі Пётр Скрабец быў клапатлівым бацькам для вучняў, патрыётам Беларусі, як і многія настаўнікі-беларусы: Чатырка, Цеханоўскі, Данілевіч, якія самаахвярна служылі беларускай справе, навучалі дзяцей роднай мове, гісторыі, многім іншым навукам. Барыс Уладзіміравіч з пачуццём глыбокай удзячнасці ўспамінае Пятра Скрабца: «Дзіўны лёс звязваў мяне з гэтым незвычайным чалавекам. Мае ролі з ім увесь час мяняліся, і ў кожнай сітуацыі мы заўсёды мелі першакласныя ўзаемаадносіны». А настаўнік Чатырка (які паходзіў з Любчы) навучыў любіць гісторыю, адсюль бярэ пачатак крыніца яго ведаў і выдатнай памяці па гісторыі малой радзімы і гісторыі чалавецтва. Барыс Уладзіміравіч і па сённяшні дзень памінае высокім словам людзей, што сеялі ў яго юнацкай душы разумнае, добрае, вечнае.

Аднак Навагрудская гімназія, як і іншыя беларускія гімназіі, пабудаваныя па ўзору класічных гімназій, мела 8 класаў і была прыватнай, таму выпускнікі яе не маглі паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы. Многія выязджалі ў Чэхаславакію, Прагу, дзе іх прымалі ва універсітэты без усялякіх перашкодаў, на падставе пасведчання аб заканчэнні гімназіі і экзаменаў , а таксама давалі стыпендыі. Гэта вельмі цікавая і знамянальная старонка ва ўзаемадачыненнях і дружбе братніх славянскіх народаў. Чэхаславакія дала прытулак беларускаму эміграцыйнаму ўраду (БНР), яна ж спрыяла навучанню беларускіх студэнтаў у чэшскіх універсітэтах. Пра гэты перыяд напісаны цікавы раман Віктара Вальтара «Роджаныя пад Сатурнам», які дае яскравае ўяўленне пра беларускае студэнцтва ў Празе, у славутым на ўсю Еўропу Карлавым універсітэце. У Празе атрымалі вышэйшую адукацыю такія выпускнікі Навагрудскай гімназіі, як Аляксандр і Пётра Орсы, Мікалай Гарошка, вядомыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху, з якімі быў добра знаёмы Барыс Кіт. «Беларуская школа, узяўшы за руку, вяла на дарогі адкрыцця, шляхі радасных і бясцэнных знаходак, — пісаў

беларускі празаік на эміграцыі Кастусь Акула ў сваёй аповесці «За волю», надаючы вялікае значэнне нацыянальнай адукацыі. — Ад свае гразкае вуліцы — на бальшак, а там і на вялікія дарогі. Прывівалася любоў да пакрыўджанага шматпакутнага колішняга гаспадара роднай зямлі, створанай ім культуры, да Бога, зруйнаваных нацыянальных і рэлігійных святыняў, песняў, мастацтва. Побач тая ж дагэтуль невядомая гісторыя Беларусі раскрывала і выстаўляла бясспрэчнымі фактычнымі доказамі жахлівае махлярства, суцэльную хлусню і варварства суседзяў, што заўсёды пад лозунгамі хрысціянства і панславізму, падпёртага колішнім місіянізмам, пасля камунізмам і ці мала яшчэ якімі крывадушнымі «ізмамі», крывавілі, выбівалі, стагоддзямі паланілі некалі вялікі й міралюбны народ, падсякалі ягонае жывое карэнне. Моладзь прагна спажывала духовы корм, станавілася на поўны рост, напаўняла родныя прасторы патрыятычнымі песнямі, рухалася ад асноўнага вывучэння ўсяго свайго роднага й дарагога да элементарнага тварэння гісторыі».

Тварыць гісторыю ўласнага жыцця і ўваходзіць у гісторыю Беларусі Барыс Кіт пачаў з гадоў навучання ў Наваградскай гімназіі. Першы раз на заняткі ў верасні 1926 года бацька адвёз яго з Карэліч у Наваградак на кані, пасля дарогу ў 20 кіламетраў ён не раз адольваў пехатою — зімой і летам, каб дапамагаць у гаспадарцы бацьку, якога вельмі любіў і паважаў, адносіны ў іх былі найлепшыя. Адмерваючы кіламетры, юнак не пераставаў любавацца цудоўнымі краявідамі родных мясцін, курганамі, пагоркамі, лясамі, азёрамі, паўнаводным Нёманам. Апетыя Адамам Міцкевічам возера Свіцязь і Янкам Нёманскім возера Кромань і сёння захапляюць сваёй незвычайнай і таямнічай прыгажосцю кожнага, хто пабывае на іх берагах, угледзіцца ў загадкавую бездань, паслухае паданні, якія нясуць іх нястомныя хвалі. А тады рамантычныя гісторыі, якія адбываліся ў гэтых мясцінах, былі добра знаёмыя Барысу Кіту, ён быццам станавіўся саўдзельнікам далёкіх падзей,

далучаўся да герояў «Свіцязянкі», падання «Над Кроманню», дзе Янка Нёманскі раскрывае легенду пра ўтварэнне возера і князя Войшалка. І можа пра гэтыя даўнія падзеі мроілася юнаку, калі ён адпачываў на паўдарозе, седзячы на прыступках старой каплічкі, якая згадваецца ў паэме Адама Міцкевіча «Дзяды». Ці не адсюль пачалося для будучага сусветна вядомага акадэміка адчуванне Радзімы, Беларусі, любоў да якой ён пранёс праз усё жыццё? Ён пабачыў мноства краін, любаваўся іх экзатычнай прыродай, але заўсёды найвышэй ставіў мілую сэрцу, ні з чым непараўнальную прыгажосць Бацькаўшчыны.

Гады навучання ў Наваградскай гімназіі для Барыса Кіта пазначаны не толькі яго нястомным жаданнем спазнаць гісторыю бацькоўскага краю, выдатнай вучобай, але і актыўнай грамадскай дзейнасцю, пазашкольнай працай. Гэты перыяд (1926—1928) наогул надзвычай цікавы ў гісторыі Заходняй Беларусі. Шырока дзейнічала Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, якая дэманстравала вялікі нацыянальны ўздым беларускага народа. Старшынёй яе быў вядомы беларускі грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч. Гэта быў час да разгрому Сталіным беларускай інтэлігенцыі, «нацдэмаў» у Савецкай Беларусі, калі заходняя частка насельніцтва, якая пакутавала ад польскага ўціску, з ілюзійнымі надзеямі пазірала на Савецкі Саюз. Грамада расла бурна, у яе дзейнасці прымалі ўдзел і старэйшыя гімназісты Наваградскай гімназіі. Барыс Кіт арганізоўваў па вёсках гурткі, у тым ліку і ў сваіх Агародніках, дзе старшынёй гуртка Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады быў абраны яго бацька. Гэтае нацыянальнае яднанне беларусаў і сёння можа служыць прыкладам, узорам арганізацыі, якая вядзе да агульнанацыянальнай мэты, збірае людзей незалежна ад іх перакананняў.

Палітычная актыўнасць вучняў так занепакоіла дырэктара гімназіі, што ён вымушаны быў прасіць некаторых дзеячаў беларускага руху, якія на той час карысталіся вялікім аўтарытэтам сярод беларускага насельніцтва (Б.

Тарашкевіч, Р. Астроўскі), каб яны прыехалі ў Навагрудак і нейкім чынам паўплывалі на вучняў, змусілі іх больш займацца вучобай, а не палітыкай. Але гэта не дапамагло. Хутка за палітычную дзейнасць многіх найбольш актыўных вучняў, у тым ліку і Барыса Кіта, настаўніка Міхала Чатырку арыштавалі. Дапытвалі некалькі дзён, але ніхто ні ў чым не прызнаваўся, ніхто не выдаваў сваіх сяброў. Таму большая частка гімназістаў была выпушчана з паліцэйскага пастарунку, затрымалі толькі тых, чыя сувязь з кампартыяй Заходняй Беларусі была даказана. Пазней яны былі асуджаны, прасядзелі да 1939 года. Далейшы іх лёс склаўся яшчэ больш трагічна, калі адбылося ўз'яднанне Беларусі і пачаліся сталінскія рэпрэсіі. Многія вядомыя і аткыўныя дзеячы Грамады, нягледзячы на тое, што сядзелі ў польскіх турмах, былі арыштаваны савецкай уладай, загінулі ў турмах і канцлагерах, як гэта здарылася з Б. Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім, Дварчаніным, Валошыным, якія былі прадстаўнікамі ад беларускага насельніцтва ў польскім сейме. Усе гэтыя людзі, падзеі помняцца Барысу Кіту і па сённяшні дзень.

Пасля разгрому Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў Навагрудскай гімназіі запанаваў больш нацыянальны, беларуска-патрыятычны настрой сярод вучняў, суцішылася палітычная дзейнасць. Гэтаму накірунку садзейнічаў і новы дырэктар Янка Цеханоўскі. Ён меў вялікі ўплыў на Барыса Кіта менавіта гэтай сваёй беларускасцю. Аднак дзейная натура Барыса Кіта не магла змірыцца з ціхай плынню будзённых гімназічных дзён. Ён арганізаваў літаратурны гурток, стаў яго старшынёй, наладжваў літаратурныя вечары, сам спрабаваў пісаць вершы, чытаў іх на пасяджэннях гуртка. Сцвярджаючы сябе здабываннем ведаў, актыўным удзелам у жыцці гімназіі, ён паспяваў наведвацца да бацькі, дзе аднавяскоўцы часта бачылі яго з кнігай, асабліва летам, калі пасвіў статак. Бацька не мог яму дапамагаць матэрыяльна, гаспадарку меў бедную і вымушаны быў часта падрабляць то ў маёнтку Храптовіча

на сенажацях, то ў цагельні. Таму Барысу Кіту, як і іншым вучням-выдатнікам з бедных сем'яў, дапамагалі напачатку дырэкцыя гімназіі і бацькоўскі камітэт, даючы магчымасць бясплатна вучыцца і жыць у інтэрнаце, а пасля сталі дапамагаць павятовыя ўлады ў асобе ліберальнага і прабеларускі настроенага старасты Грынеўскага і мясцовай грамадскай дзяячкі яго жонкі Урсулы Грынеўскай.

У 1928 годзе ваяводам у Наваградку быў Зыгмунт Бэчковіч, чалавек з больш пазітыўнымі адносінамі да беларускага насельніцтва. Даведаўшыся аб цяжкім становішчы беларускай гімназіі, многіх вучняў і настаўнікаў, ён пачаў рабіць захады, каб ёй быў нададзены статус дзяржаўнай. У выніку ягоных намаганняў Наваградская, а затым Віленская беларускія гімназіі дзяржаўныя правы атрымалі. Але яны сталі філіяламі польскіх гімназій, дзеля чаго павінны былі пацвердзіць свой новы статус. Ім быў наладжаны супольны матуральны экзамен перад дзяржаўнай камісіяй пад старшынствам прафесара, прарэктара Віленскага універсітэта Масоніуса, прыязнага беларусам. Камісія складалася з асобаў, прыйшоўшых звонку, каб захаваць поўную аб'ектыўнасць. Гэта быў экзамен не толькі для вучняў, але і для настаўнікаў. Ён працягваўся два тыдні, былі пісьмовыя і вусныя экзамены. Барыс Кіт пісаў рэферат на французскай мове па творчасці Шатабрыяна, ён дасканала ўжо тады валодаў беларускай, польскай і французскай мовамі, якія вывучаліся ў гімназіі. Атрымаўшы атэстат сталасці з добрымі і выдатнымі адзнакамі, Барыс Кіт адначасна пацвердзіў сваё права на стыпендыю і паступленне ва універсітэт, а беларускія гімназіі яшчэ раз даказалі грунтоўнасць праграм і метадаў навучання, бліскуча вытрымаўшы ўсе выпрабаванні.

# ДЗЕЙНАСЦЬ БАРЫСА КІТА
# Ў БЕЛАРУСКІМ ШКОЛЬНІЦТВЕ

У верасні 1928 года Барыс Кіт быў залічаны на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя. Пераезд у Вільню быў пачаткам аднаго з найцікавейшых перыядаў у яго жыцці. Ён пасяліўся на адной кватэры (каля Вострай Брамы) з Ежы Путрамантам, які стаў потым вядомым польскім пісьменнікам. Разам з ім вучыліся аднакласнікі па Наваградскай гімназіі, што займаліся некалі ў настаўніка Рамановіча: Аркадзь Вярбіцкі (перайшоў пазней у БССР, там быў арыштаваны ў гады сталінскіх рэпрэсій і загінуў), Язэп Гоцка (расстраляны немцамі ў час вайны за падпольную дзейнасць).

Універсітэт, студэнтам якога стаў Барыс Кіт (скончыў у 1933 годзе са ступенню магістра матэматыкі), быў адным са старэйшых у Еўропе. У 1929 годзе адзначалася 350 гадоў з дня яго заснавання. Тут вучыліся многія выдатныя беларускія і польскія дзеячы, свята захоўваліся ўсе старыя добрыя традыцыі: права экстэрытарыяльнасці (паліцыя не магла ступаць на тэрыторыю універсітэта), перыядычна абіраўся рэктар, які павінен быў адкрываць акадэмічны навучальны год вялікай прамовай на ўрачыстым сходзе студэнтаў і прафесараў (так званы дзень інаугурацыі), калі ўсе збіраліся ва універсітэцкай зале, дзе вісеў агромністы партрэт караля Стэфана Баторыя, а прафесары, дэканы павінны былі апранацца ў тогі.

Пры універсітэце заўсёды існавалі шматлікія студэнцкія арганізацыі, а таксама Беларускі студэнцкі саюз і беларуская студэнцкая карпарацыя «Скарынія». Асноўным грамадскім цэнтрам быў Беларускі студэнцкі саюз, сябрамі якога станавіліся беларусы — студэнты ўсіх палітычных напрамкаў.

Барыс Кіт з першага курса пачаў браць актыўны ўдзел ва універсітэцкім жыцці. Ён уступіў у Беларускі студэнцкі саюз, наведваў сходы такіх беларускіх арганізацый, як Таварыства беларускай школы (ТБШ), старшынёй якога быў напачатку Радаслаў Астроўскі, а пазней Рыгор Шырма. Аднак польскія ўлады пільна сачылі за дзейнасцю беларускіх арганізацый. У 1927 годзе яны забаранілі Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, а ў хуткім часе было забаронена і Таварыства беларускай школы. Рыгор Шырма пасля гэтага заснаваў беларускі хор, якім кіраваў на працягу доўгіх гадоў.

Удзел Барыса Кіта ў беларускім грамадскім руху з самых маладых гадоў — гэта перыяд выспявання ў яго душы патрыятычных настрояў, усведамленне сябе беларусам, якому неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, лёс народа. Ён разумеў, што дзеля таго, каб Беларусь стала незалежнай дзяржавай, трэба шмат працаваць, несці веды людзям, пашыраць асветніцкую справу і пачынаць неабходна з арганізацыі беларускага школьніцтва, вучыць маладое пакаленне, прывіваючы ідэі беларускасці, свабодалюбства, адчування нацыянальнай годнасці. Гэтыя свае перакананні ён пачынае ўвасабляць у практычныя, канкрэтныя справы. Яшчэ будучы студэнтам 3-га курса Віленскага універсітэта, ён становіцца настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі, выкладчыкам матэматыкі. Адсюль бярэ пачатак найбольш плённы і дзейсны перыяд працы Барыса Кіта ў беларускім школьніцтве. Гады яго настаўніцтва ў гэтай гімназіі (1931—1939) адзначаны барацьбой з польскімі ўладамі за існаванне беларускіх школ. Гісторыя беларускага школьніцтва — драматычная старонка ў нашым асветніцтве. З першых яго крокаў пасля вайны 1914—1918 гадоў, карыстаючыся часовай свабодай, беларускія грамадскія дзеячы і патрыёты змаглі арганізаваць у Заходняй Беларусі каля 300 беларускіх пачатковых школ і 8 гімназіяў. Аднак польскі шавіністычны ўрад, які напачатку нібыта і даў пэўныя дэмакратычныя свабоды нацыянальным мен-

шасцям, у тым ліку і трохмільённым этнічным беларусам, вельмі хутка прыступіў да жорсткай паланізацыі. Была пастаўлена мэта зліквідаваць беларускія школы і гімназіі,ператварыць заходніх беларусаў у палякаў. Віленскі ваявода Бацянскі нездарма выказаўся аднойчы, што ён зробіць усё, каб на працягу 10 гадоў ніводнага беларуса тут не засталося. І гэта пагроза пачала ператварацца ў рэальнасць: да 1928 года з 8 беларускіх гімназіяў засталося 4: Радашкоўская, Клецкая, Навагрудская і Віленская, а з 1934 працавала толькі адзіная беларуская гімназія ў Вільні. Яна, як і Навагрудская, несла святло нацыянальнай свядомасці, існавала, дзякуючы свайму высокаму аўтарытэту, усеагульнай падтрымцы беларускага насельніцтва, самаадданаму энтузіязму і патрыятызму настаўнікаў-беларусаў. Дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, якая месцілася ў Базыльянскіх мурах на Вострабрамскай вуліцы, быў Радаслаў Астроўскі. Пры гімназіі дзейнічалі інтэрнат, бібліятэка. Вучыліся ў гімназіі пераважна сялянскія дзеці з падвіленскага беларускамоўнага насельніцтва, якое было каталіцкім. Яго ў сваіх руках трымала польскае шавіністычнае духавенства, варожа настроенае да беларускасці.

Калі ў 1934 годзе, у час агульнага польскага наступу на беларускі рух, была зачынена Навагрудская беларуская гімназія, вучням было прапанавана ўступіць у польскую дзяржаўную гімназію імя Адама Міцкевіча. Гэта была прымусовая паланізацыя беларускай моладзі. Радаслаў Астроўскі, як дырэктар, адкрыта крытыкаваў польскія ўлады за іх адносіны да беларусаў. Ён паслаў Барыса Кіта, чалавека найбольш вядомага на Навагрудчыне, каб той не дапусціў пераходу беларускіх вучняў у польскую гімназію і перавёз усіх жадаючых у Віленскую. У час, калі пачаўся перапіс вучняў, Барыс Кіт прыехаў у Навагрудак і стаяў цэлы дзень у варотах польскай гімназіі, сустракаў вучняў-беларусаў, агітуючы ехаць вучыцца ў Вільню. Большасць з іх згадзілася з прапановамі беларускага настаў-

ніка. Мясцовы дырэктар польскай гімназіі, даведаўшыся аб «крамольнай» дзейнасці Барыса Кіта, паслаў на яго данос вышэйшым школьным уладам Віленскай акруговай куратарыі, да якой належаў і Навградскі павет. Куратарам тады быў пан Шэленгоўскі — на шчасце, адзін з ліберальных дэмакратаў (хутка яго знялі з гэтай пасады). У даносе гаварылася нават пра тое, што Барыс Кіт сваімі дзеяннямі падарваў асновы польскай дзяржаўнасці. Аднак, разабраўшыся ў справе, Шэленгоўскі парваў данос і сказаў, што Кіт паступіў як сапраўдны беларускі патрыёт.

Разам з Шэленгоўскім (ён паплаціўся за свой лібералізм у адносінах да нацыянальных меншасцяў, асабліва да беларусаў. На яго месца польскія ўлады прыслалі ярага шавініста Гадэцкага) адышлі з польскай адміністрацыі і іншыя палякі-дэмакраты. Ім на змену прыходзілі людзі накшалт віленскага ваяводы Бацянскага. Калі ён наведваў Віленскую беларускую гімназію, то заўсёды рабіў заўвагу, чаму, замест партрэтаў Адама Міцкевіча і Юлія Славацкага, вісяць партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, быў незадаволены, што тут усе гавораць па-беларуску, спрабаваў нават сярод вучняў займець даносчыкаў, якія б дакладвалі яму, чаму навучаюць на сваіх уроках беларускія настаўнікі. Пад канец 30-х гадоў шавіністычная польская атмасфера, у якой знаходзіліся беларускія асяродкі, стала невыноснай. Беларускі актыў вырашыў паслаць у Варшаву дэлегацыю ў складзе Р. Астроўскага, Глінскага і Б. Кіта, каб паведаміць польскім вышэйшым уладам, у якім становішчы знаходзіцца беларуская гімназія ў Вільні, тым больш, што ёй кожны год пагражалі закрыццём. Аднак гэта дэлегацыя нічога не дабілася, наадварот, стала яшчэ горш. Ніжэйшае начальства, на ўзроўні куратарыі, было незадаволена скаргамі беларусаў і пачало рабіць больш рашучыя захады, каб наогул ліквідаваць апошнюю беларускую гімназію. Звольнілі спачатку дырэктара Р. Астроўскага і перавялі яго настаўнікам матэматыкі ў адну з польскіх гімназіяў у Лодзь, а беларускую гімназію, якая на той час ужо была філіялам

польскай, пачалі цалкам пераводзіць на польскую мову. Дзеля гэтага зрабілі выгляд, аднак, што патрабуецца фармальная згода бацькоў вучняў беларускай гімназіі. Ваявода Бацянскі паслаў сваіх падначаленых, якія то пагрозамі, то ўсялякімі абяцанкамі сабралі патрэбную колькасць подпісаў. Кураторыя адправіла так званыя патрабаванні бацькоў у міністэрства асветы ў Варшаву. Загад міністэрства аб пераводзе беларускай гімназіі на польскую мову прыйшоў неадкладна. Ён фактычна ліквідаваў беларускую гімназію ў Вільні. Але гэты загад быў атрыманы ў верасні 1939 года, калі пачалася другая сусветная вайна і Польшча перастала існаваць пад ударамі нямецкіх войскаў.

Падзеі імкліва нарасталі: 17 верасня Чырвоная Армія заняла ўсходнюю Польшчу разам з Вільняй. Польская школьная адміністрацыя спыніла сваю дзейнасць. Яе месца заняла беларуская пад кіраўніцтвам Францішака Грышкевіча, які па жаданню вучняў і іх бацькоў прызначыў Барыса Кіта дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні (1939).

Нягледзячы на цяжкія перыпетыі лёсу, беларуская гімназія ў свае апошнія гады заставалася цвярдыняй беларускага духу. І вучні, і настаўнікі жылі ідэяй нацыянальнага адраджэння, тут лунала сама гісторыя, шырока, урачыста адзначаліся беларускія нацыянальныя святы, найважнейшыя даты, праводзіліся вечары сустрэч, акадэміі ў гонар Слуцкага паўстання, угодкаў 25 Сакавіка, аздобленыя беларускімі нацыянальнымі сімваламі. Працавалі шматлікія мастацкія, фальклорныя гурткі. Моладзь гаварыла на роднай мове, хаця ў гімназіі, якая мела гуманітарны ўхіл, вывучаліся лацінская, славянскія, еўрапейскія мовы. Тут працавалі вядомыя ў беларускім Адраджэнні людзі: Максім Гарэцкі, Аркадзь Смоліч, Антон Грыневіч, Сяргей Паўловіч, Рыгор Шырма. Новы дырэктар няўхільна прытрымліваўся лепшых гімназічных традыцый. Але з'явілася шмат новай работы ў сувязі з незвычайнымі

абставінамі. Прыбывала немалая колькасць вучняў з розных частак Заходняй Беларусі — даводзілася адчыняць больш інтэрнатаў, каб забяспечыць навучэнцаў усім неабходным, і найперш — жыллём. Трэба было шукаць новых выкладчыкаў і выхавацеляў. Аднак у хуткім часе Вільня і ўся Віленская акруга, дзе спрадвеку большасць насельніцтва — беларусы, адышла пад Літву (снежань 1939), і такім чынам Віленская беларуская гімназія аказалася ў чужой краіне. Асноўную частку выхаванцаў Віленскай гімназіі, як вядома, складалі дзеці беларусаў з Наваградка. Таму на агульным сходзе было вырашана, каб дырэктар зрабіў усе магчымыя захады для пераводу гэтых вучняў у Наваградак і аднавіў працу Наваградскай беларускай гімназіі.

І Барыс Кіт пачаў дзейнічаць. Спачатку ён паехаў да начальніка Наваградскай акругі Арцемія Пятровіча Саўчанкі, паведаміў усе абставіны, расказаў гісторыю Наваградскай беларускай гімназіі, будынак якой пасля яе закрыцця ў 1934 годзе быў забраны польскімі ўладамі. А між тым яго будавалі самі вучні з дапамогай бацькоў. Агульнымі намаганнямі гімназія ў Наваградку была зноў адкрыта, і яе дырэктарам стаў Барыс Кіт. Колькі трэба было мець цярпення, сілы духу, перакананасці ў святасці і неабходнасці справы, якой ён самаааддана служыў, каб цяпер зрабіць адваротнае: перавезці віленскіх гімназістаў у Наваградскую гімназію, як некалі перавозіў наваградскіх ў Віленскую. І зрабіў ён гэта на працягу тыдня: перавёз, уладкаваў у інтэрнат, наладзіў нармальны вучэбны працэс. У Віленскай гімназіі засталіся вучні, бацькі якіх жылі ў Вільні і блізкіх ваколіцах, дырэктарам стаў ксёндз Адам Станкевіч.

Як толькі разышлася чутка пра адкрыццё беларускай гімназіі ў Наваградку, з акаляючых вёсак і мястэчак адразу пайшлі запісвацца ў яе вучні-беларусы. Маладому дырэктару ўдалося сабраць таленавіты настаўніцкі калектыў, дзе працавалі такія педагогі, як Лявон Барысаглебскі (пазней

быў прафесарам БДУ ў Мінску), Пётр Скрабец, Яўхім Скурат, Аляксандр і Наталля Орсы. Дарэчы, Барыс Уладзіміравіч добра ведаў сям'ю Орсаў, быў звязаны з ёю сяброўскімі адносінамі. Іх было 4 браты: старшы — Павел Орса жыў у Нягневічах, трымаў карчму, і калі Барысу Кіту даводзілася пехатою ісці ў Любчу да настаўніка гісторыі Чатыркі (быў рэпрэсіраваны, загінуў у Сібіры), ён адпачываў у Нягневічах у гасцінным доме Паўла. Мікалай Орса вучыўся разам з Барысам Кітам у Наваградскай гімназіі, арыштаваны ў гады сталіншчыны, не вярнуўся з канцлагера. Аляксандр Орса паехаў у Чэхаславакію, там атрымаў вышэйшую адукацыю і выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Наваградскай гімназіі. У час нямецкай акупацыі працаваў акруговым школьным інспектарам у Наваградку, потым эмігрыраваў у Амерыку (ён бацька Алы Орса-Рамана, якая стала прафесарам хіміі Нью-Йоркскага універсітэта). Пятра Орсу Барыс Кіт пазней выпісаў у ЗША, і яны разам засноўвалі беларускую калонію ў Саўт-Рывеы. Пра такіх людзей, узаемадачыненнях з імі Барыса Кіта можна пісаць цэлыя аповесці, бо той перыяд, калі яны жылі на Наваградчыне, быў адным з лепшых і плённых у гісторыі беларускай гімназіі. Сярод вучняў і выкладчыкаў панаваў вялікі энтузіязм. У сваёй дырэктарскай, адміністрацыйнай працы Барыс Кіт шмат у чым наследаваў лепшым яе былым дырэктарам, якіх высока цанілі беларускія настаўнікі і моладзь, падтрымліваючы іх барацьбу, адстойванне інтарэсаў беларускага школьніцтва і наогул беларускай справы. Яго нястомныя намаганні на карысць асветніцтва, актыўная дзейнасць Барыса Кіта як сябра Таварыства беларускай школы, Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, паплечніка многіх беларускіх дзеячаў, выкладчыцкая работа, клопат пра дабрабыт вучняў — усе гэтыя шматлікія абавязкі не далі яму магчымасці прымаць удзел ні ў якіх партыях. Ды і, шчыра кажучы, яго асабліва туды і не ўцягвалі. Ён наогул ніколі не належаў ні да якіх палітычных партый, аддаючы ўвесь свой час, сваю нястомную

энергію і талент педагагічнай і навуковай дзейнасці. Барыс Кіт заставаўся незалежным у час вайны, не ўваходзіў ні ў якую нямецкую калабарацыю, працаваў толькі дзеля беларускага школьніцтва, што ніякім чынам не можа лічыцца супрацоўніцтвам з немцамі. Што б ні здарылася, якія б войны ні абрынуліся і колькі б ні працягваліся, дзяцей заўсёды трэба вучыць, бо яны — будучыня народа. Гэту ісціну добра ўсведамляў беларускі настаўнік-патрыёт. І Наваградская гімназія, нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, узгадавала пад яго кіраўніцтвам многіх адукаваных, таленавітых людзей з багатым духоўным светам, высокамаральных інтэлігентаў-беларусаў з глыбокім пачуццём нацыянальнай і чалавечай годнасці, незалежна, дзе яны потым жылі, кім працавалі. Яна загартавала іх для барацьбы з суровымі выпрабаваннямі лёсу.

Забягаючы наперад, трэба адзначыць, што ў 1948 годзе, калі Барыс Кіт эмігрыраваў у Амерыку і заснаваўся ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), ён шмат дапамагаў беларусам-эмігрантам у пераездзе, не зважаючы на іх палітычныя перакананні — зарубежнікі яны (БЦР) ці крывічы (БНР). Дзякуючы яму, і была створана беларуская калонія ў гэтым амерыканскім мястэчку. Яго хуткі затым пераезд у Каліфорнію, дзе ён распачаў сваю навуковую астранаўтычную кар'еру, часткова быў вынікам асабістага расчаравання з прычыны канфліктаў, якія пачаліся паміж гэтымі дзвюма групоўкамі, калі большасць беларусаў-эмігрантаў прыехала ў ЗША.

Але вернемся да часу яго працы ў Наваградскай гімназіі. Арганізатарскія здольнасці Барыса Кіта, яго ўменне працаваць з людзьмі былі заўважаны і высока ацэнены школьнымі ўладамі, хаця яму не раз рабіліся заўвагі (была такая загадчыца райана Кацярына Гутарцова) наконт не зусім «марксісцка-ленінскага» стаўлення да нацыянальна-патрыятычнага выхавання моладзі, ідэй русіфікацыі, зліцця моваў. Тым не менш ён быў назначаны акруговым

інспектарам Баранавіцкай акругі, і, такім чынам, пад яго кантроль увайшлі ўсе школы Баранавіцкака, Наваградскага, Слонімскага, Валожынскага, Ваўкавыскага паветаў. Шырока разгарнулася дзейнасць Барыса Кіта па развіццю беларускага школьніцтва. На працягу года ён адкрыў каля сотні пачатковых і дзесяткі сярэдніх школ. А гэта была не такая простая і лёгкая справа ў той складаны, трывожны час, калі адчувалася пагроза блізкай вайны. Неабходна было ў кожнай вёсцы, мястэчку знайсці адпаведныя памяшканні, настаўнікаў, стварыць ім прыстойныя ўмовы, дабіцца хоць нейкіх матэрыяльных пераваг, каб яны маглі ехаць у вясковыя школы і плённа працаваць. Нялёгка было здабыць мэблю, падручнікі, кнігі, сшыткі. Ён уваходзіў з хадайніцтвамі ў самыя розныя арганізацыі, патрабаваў, прасіў, імкнучыся знайсці агульную мову з кожным чыноўнікам, ад якога залежала станоўчае вырашэнне таго або іншага пытання. Бясконцыя раз'езды, наведванні школ, інспектарскія праверкі, заўсёды добразычлівае жаданне дапамагчы, падказаць, навучыць нявопытнага настаўніка — на ўсё хапала энергіі, настойлівасці і цярпення Барыса Кіта. І ён бачыў аддачу. Школы працавалі, вучылі дзяцей, а гэта галоўнае, дзеля чаго ён жыў, чым натхняўся. Непрацяглы час, адведзены Барысу Кіту для яго дзейнасці ў беларускім школьніцтве паміж уз'яднаннем Заходняй Беларусі з БССР і пачаткам вайны, быў незвычайна плённым, захапляў адчуваннем, што працуе ён на карысць сваёй Бацькаўшчыны, садзейнічае не толькі асветніцтву, але і пашырэнню нацыянальнай свядомасці ў беларускім асяроддзі. А гэта ж быў самы пік сталінскіх рэпрэсій, калі вынішчаліся самабытныя традыцыі беларускага народа, працоўнае сялянства, інтэлігенцыя — цвет нацыі. Аднак развіццё беларускага школьніцтва і ўсе задачы, з ім звязаныя, што паставіў сабе за мэту ажыццявіць Барыс Кіт, былі асноўным стымулюючым пачаткам усіх ягоных намаганняў.

Адначасова з гэтай дзейнасцю ён працаваў яшчэ і

выкладчыкам матэматыкі ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Тут Барыс Уладзіміравіч пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Нінай Корсак, бацькі якой жылі ў мястэчку Лебедзева каля Маладзечна. У Лебедзеве нарадзіўся ў 1941 годзе іх першы сын Уладзімір. Але гэтая знамянальная падзея ў асабістым жыцці Барыса Кіта супала з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны.

Нямецкая акупацыя прынесла шмат гора беларускаму народу. Пачаў усталёўвацца «новы парадак», дзе расстрэлы мірных жыхароў сталі звычайнай з'явай. Немцы вынішчалі асабліва тых, хто займаў хоць нейкую пасаду пры савецкай уладзе ці лічыўся камуністам. Барыс Кіт хаця і не стаў камуністам, але пасаду займаў немалую, быў вядомым чалавекам у акрузе. Даведаўшыся, што расстраляны інспектар вячэрніх школаў Генрых Дэмбінскі, у мінулым вядомы польскі дэмакратычны дзеяч, ён зразумеў, што неабходна ратавацца самому і выратоўваць жыццё сям'і. Пехатою накіраваліся яны да Лебедзева, дзе напачатку знайшлі прытулак у бацькоў жонкі. Перачакаўшы нейкі час небяспеку, Барыс Кіт пачынае працаваць у мясцовай школе, выкладае матэматыку і нямецкую мову. Але ён не пакідаў задумы адносна адкрыцця новых навучальных устаноў. Як сапраўдны педагог, ён выдатна ўсведамляў, што дзяцей трэба вучыць, што б ні здарылася. Хіба можна вайной або іншымі прычынамі апраўдаць непісьменнасць?

Маючы звесткі, што немцы дазволілі адкрываць пачатковыя і вузкапрафесійныя школы, Барыс Кіт вырашыў рызыкнуць. Сустрэўшыся аднойчы са сваім калегам, школьным інспектарам Маладзечанскага раёна Яворскім, яны, параіўшыся, пастанавілі паспрабаваць адчыніць настаўніцкую семінарыю ў Маладзечне. Дзеля гэтага трэба было атрымаць дазвол нямецкіх акупацыйных уладаў. У выніку вялікіх стаaccount намаганняў яны такі дазвол атрымалі ў 1942 годзе, пабываўшы ў Мінску. У мясцовай маладзечанскай друкарні былі надрукаваны і распаўсюджаны абвесткі пра адкрыццё настаўніцкай семінарыі. Падалі заявы каля 300 маладых

людзей, якія паспяхова здалі ўступныя экзамены, і пачалася навука. З памяшканнем асаблівых клопатаў не было (заняткі праводзіліся ў былым будынку педвучылішча), як і з настаўніцкім персаналам. Аднак нядоўгай была радасць заснавальніка і дырэктара семінарыі Барыса Кіта. Нямецкі камісар Вілейскай акругі, даведаўшыся пра яе існаванне, прыехаў у Маладзечна, зачыніў не толькі настаўніцкую семінарыю, але і друкарню, дзе друкаваліся абвесткі. Быў дадзены загад арыштаваць дырэктара. Справа ў тым, што маладзечанская семінарыя была адкрыта без дазволу мясцовых уладаў, якія лічылі, што адной семінарыі, якая працавала ў Вілейцы, зусім дастаткова для акругі, тым больш для ўнтэрмэншаў, людзей другога гатунку, ніжэйшай расы, як яны лічылі беларусаў.

Дырэктару ўдалося пазбегнуць арышту. Ён выехаў у Мінск і, не пабаяўшыся, пайшоў да кіраўніка школьнага аддзела Генеральнага камісарыята Беларусі з просьбай аб дапамозе. Лепшае, што той мог зрабіць для Барыса Кіта, — прызначыць яго дырэктарам семінарыі ў Паставы Глыбоцкай акругі.

Цяжкія, страшныя моманты нямецкай акупацыі прыгадваюцца Барысу Уладзіміравічу. «У адзін вясновы дзень, — успамінае ён, — наляцела на Паставы з аблавай эсэсаўская каманда і вынішчыла ні ў чым невінаватых многіх людзей. Мы, перапалоханыя, не выходзілі з будынка семінарыі. Раптам у маім дырэктарскім кабінеце з'явіўся эсэсаўскі камандзір і камендант горада Дасюкевіч, які ад неспадзяванасці ніяк не мог папярэдзіць гэтую аблаву. Эсэсавец запатрабаваў, каб мае вучні ішлі прыбіраць вуліцы ад расстраляных. Я катэгарычна адмовіўся. Эсэсавец выхапіў пісталет і, каб яго руку не адвёў Дасюкевіч, [redacted] быў бы мёртвы. Толькі пасля таго, як сам Дасюкевіч быў расстраляны немцамі за яго падпольную дзейнасць, я даведаўся, што ён быў вялікі беларускі патрыёт і выратоўваў людзей, дзе і як толькі мог».

Такія выпадкі, трагічныя лёсы незлічоных ахвяр у час

акупацыі прымушаюць да аб'ектыўнага даследавання дзейнасці тых удзельнікаў вайны, якія пад выглядам супрацоўніцтва з немцамі баранілі мірнае насельніцтва, шчыра і цвёрда стаялі за беларускую нацыю, ідэю беларускасці. Рызыкуючы жыццём, за гэту ідэю ў складаных, цяжкіх і супярэчлівых абставінах вайны змагаўся і Барыс Кіт, неаднойчы гледзячы смерці ў твар, аднак мужна, цярпліва і настойліва працягваў сваю пачэсную работу.

У хуткім часе ён даведаўся, што справа з Маладзечанскай семінарыяй крыху аціхла, небяспека быццам мінавала. І праз неймаверныя цяжкасці яму ўдалося дабіцца адкрыцця ў Маладзечне гандлёвай школы, дырэктарам якой ён стаў. Перадаўшы семінарыю ў Паставах свайму намесніку, развітаўшыся з вучнямі і настаўнікамі, з якімі склаліся вельмі добрыя адносіны, Барыс Кіт выехаў у Маладзечна. Аднак па дарозе быў арыштаваны нямецкім гестапа, западозраны ў сувязях з партызанамі і ва ўсялякай іншай антынямецкай дзейнасці. Трыццаць дзён яго трымалі ў Глыбоцкай турме і два тыдні ў Вілейцы. Чакаючы вырашэння свайго лёсу, ён перажыў усе жахі гестапаўскіх допытаў і расстрэлаў, бо кожны дзень з камеры большасць вязняў выводзілі на расстрэл, і кожны раз, калі адчыняліся дзверы, яму здавалася, што гэта канец. Дапамог выратавацца Барысу Кіту яго былы вучань з Віленскай беларускай гімназіі Кастусь Касяк, які лічыўся беларускім упаўнаважаным у Вілейцы. На жаль, Касяк таксама быў расстраляны немцамі і, як стала вядома пазней, па даносу палякаў, якія імкнуліся вынішчыць беларускую інтэлігенцыю, што адстойвала беларускасць, нямецкімі рукамі. Гэта яшчэ адна зусім не вывучаная старонка ўзаемадачыненняў палякаў антыбеларускай накіраванасці і свядомых беларусаў у гады нямецкй акупацыі.

Вярнуўшыся ў Маладзечна, Барыс Кіт пачаў рабіць усе магчымыя і немагчымыя захады, каб ператварыць гандлёвую школу ў адміністрацыйна-гандлёвы інстытут. Першы год былі арганізаваны два курсы. Абітурыенты,

якія вучыліся ў польскай гімназіі, або скончылі савецкую сярэднюю школу, залічваліся на другі курс, на першы курс было прынята звыш 60 чалавек — было створана такім чынам дзве паралельныя групы.

Увосень 1943 года ў інстытут прынялі 120 студэнтаў. Яны навучаліся ў трох паралельных групах. У пераважнай большасці гэта былі дзеці сялян з Маладзечанскага, Вілейскага, Ашмянскага і Радашковіцкага паветаў. Мясцовых маладзечанскіх вучняў было каля 30 чалавек. Хлопцаў, прычым, значна больш, чым дзяўчат. Уступны конкурс быў вялікі, бо падалі заявы ў інстытут каля 200 чалавек. Размяшчаўся ён на Менскай вуліцы ў былым прыватным доме, дзе абсталявалі класы, настаўніцкі пакой і канцылярыю. Навучанне, разлічанае на 4 гады, вялося ў дзве змены, шэсць дзён на тыдзень. Вывучаліся ўсё прадметы сярэдняй школы, а таксама гандаль, таваразнаўства, бухгалтэрыя і на апошніх двух курсах — права.

Выкладчыкамі ў інстытут запрашаліся многія прафесіяналы, якія выдатна ведалі свае прадметы. Намеснікам дырэктара стаў віленскі юрыст Дзмітрыеў, што спецыялізаваўся ў гандлёвым праве. Ён выкладаў гандаль і права, дасканала валодаў ангельскай і нямецкай мовамі і добра гаварыў па-беларуску. Чалавекам, які прышчапіў вучням любасць да беларускасці, быў выкладчык беларускай літаратуры Янка Давідовіч. Эстэт, інтэлігент, прыгожы, выхаваны — усе вучні былі ў яго закаханыя. Размаўляў на крыштальна чыстай літаратурнай мове, быў асабіста знаёмы з М. Танкам, ведаў на памяць шмат беларускіх вершаў. Ён прымушаў вучняў чытаць беларускую, рускую і сусветную класіку, дамагаўся, каб яны гаварылі на беларускай мове і кожны тыдзень пытаўся, што было імі прачытана за апошні час. Беларускую мову выкладала Вольга Пагуда — маладая, сінявокая, светлавалосая дзяўчына, якая ў 1944 годзе перажыла асабістую трагедыю — яе нарачоны — афіцэр Беларускай Краёвай Абароны — сярод белага дня быў застрэлены ў Лідзе польскімі

падпольшчыкамі. Яна моцна перажывала сваё гора, студэнты пра гэта ведалі і вельмі спачувалі сваёй настаўніцы.

Гісторыю выкладаў дацэнт Мінскага універсітэта Макарэвіч, які таксама перажыў вялікае гора: у першыя дні вайны, калі бамбілі Мінск, загінула ягоная жонка, і ён з малой дачкой перабраўся ў Маладзечна. Чалавек ён быў таварыскі, спагадлівы, але незвычайна патрабавальны да студэнтаў. Выкладчыкам гандлёвай справы быў Шчасны з Наваградчыны. Ён скончыў вышэйшую гандлёвую школу ў Варшаве, ведаў ангельскую і нямецкую мовы, хаця не зусім добра валодаў беларускай.

Настаўнікі працавалі самаахвярна, жылі напаўгалодна, і таму па рашэнню бацькоўскага камітэта была ўстаноўлена аплата за навуку: з кожнага вучня 1 пуд мукі і 1 кілаграм сала ў год, каб неяк падтрымаць настаўнікаў харчамі. Пры інстытуце быў гурток мастацкай самадзейнасці, літаратурны гурток, да якога належалі не толькі студэнты, але і аматары пяра з ваколіцаў. Гэтымі гурткамі кіраваў школьны інспектар Магер. З восені 1943 года музычныя заняткі (піяніна, скрыпка) пачаў весці расійскі кампазітар і віртуоз-скрыпач Камароўскі. Яго з лагера ваеннапалонных вырваў Барыс Кіт, і ён часта даваў канцэрты класічнай музыкі на скрыпцы пад акампанемент сваіх вучняў.

Цікавыя меркаванні наконт Гандлёвага інстытута выказваў яго былы студэнт Міхась Лужынскі: «Сама задума гэтай школы была надзвычай разумная. Выпускнік школы мог заняць якую-хаця пасаду ў гандлёвай арганізацыі, адкрыць агенцыю імпарту і экспарту, дастаць працу бухгалтара ў любым прадпрыемстве, адміністратара ў раённай ці гарадской управе або сакратара суду. Як вядома, у нас усе гэтыя становішчы амаль без выключэння былі занятыя чужынцамі. Дырэктарам школы быў Барыс Кіт. Ён карыстаўся вялікай пашанай, усе неяк ведалі яго біяграфію — былы выкладчык Віленскай беларускай гімназіі і шчыры патрыёт. Ён выстараўся для ўсіх нас пасведчанні па-нямецку і па-беларуску са здымкам, якія нам вельмі дапа-

магалі ездзіць дадому цягніком. Немцы, як вядома, зацятыя фармалісты і да паперак, напісаных па-нямецку, ставіліся з павагай... Пра далейшую долю настаўнікаў Маладзечанскай гандлёвай школы ведаю мала. У вольным свеце знаходзіцца толькі прафесар Барыс Кіт, цяпер навуковец міжнароднай славы. Большасць вучняў засталася дома. Ёсць два дзесяткі ў Польшчы, 3 — у Англіі, 2 — у ЗША, 2 — у Канадзе, 1 — у Аўстраліі... Усе яны добрым словам успамінаюць дырэктара Барыса Кіта, заслужанага беларускага педагога, які рызыкаваў жыццём, каб моладзь магла атрымаць у жудасныя акупацыйныя часы асвету... Прыспешана б'ецца сэрца, калі прыпамінаю той трывожны час, час змагання і нацыянальнага ўздыму беларускага народу і нашага юнацкага ў ім удзелу» (газета «Беларус», люты 1983).

Такім чынам, вучэбны працэс у інстытуце быў добра наладжаны, ішоў поўным ходам. Часта даводзілася дырэктару ратаваць сваіх студэнтаў ад нямецкіх акопаў, залічваць у інстытут звыш усялякай нормы юнакоў і дзяўчат, якім пагражаў прымусовы ўгон у Германію. Многім ён так выратаваў жыццё.

Тое, што Барыс Кіт замест ніжэйшай гандлёвай школы навучае студэнтаў па інстытуцкай праграме, дайшло да нямецкіх уладаў. Ён зноў апынуўся на мяжы арышту. Было загадана неадкладна зачыніць інстытут. Пра гэты загад дырэктар не паведаміў студэнтам і выкладчыкам і не спяшаўся яго выконваць. Студэнты прайшлі поўны інстытуцкі курс навучання. Атрымліваючы дыпломы і віншаванні дырэктара, выкладчыкаў, яны і не здагадваліся, што афіцыйна іх інстытут даўно зачынены. Мужнасць і на гэты раз не здрадзіла іх дырэктару.

Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут у Маладзечне даў за час сваёй дзейнасці добрыя, грунтоўныя веды студэнтам, даў нацыянальнае ўзгадаванне. Барыс Кіт, чалавек справы, адкрыў гэты інстытут, каб не пакінуць беларускіх дзяцей у такі цяжкі час, каб не пазбавіць іх інтэлектуальна-

га развіцця, каб захаваць у іх душах веру і высокую мараль. Па сведчанню былой вучаніцы Барыса Кіта А. Кананові ч, якая жыве ў Ваўкавыску, «у школе поўнасцю адсутнічала ўсялякая палітызацыя. Ніякіх усхваленняў Гітлера і яго арміі, нам нічога нават не гаварылі аб нямецкім народзе і яго культуры, ні адзін немец не пераступаў парога школы, і мы не ведалі, што наш дырэктар валодае нямецкай мовай. Не было ў нас ніякай крытыкі Сталіна і бальшавізму, а ў душы кожны з нас разумеў, што немцы павінны быць выгнаны з нашай зямлі.

А вось беларуская літаратура... Ні ў польскіх, ні ў савецкіх школах мы нічога падобнага не чулі. Мы даведаліся пра Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага, Льва Сапегу, пра Вялікае Княства Літоўскае, пра Буднага, Цяпінскага, Кастуся Каліноўскага, пра беларускую літаратуру канца XIX і пачатку XX стагоддзяў. Мы спявалі «Пагоню», «Люблю наш край», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і іншыя песні. І літаратура, і песні садзейнічалі развіццю нацыянальнай свядомасці і духоўнаму адраджэнню, а веданне матэматыкі, фізікі, гандлёвай справы развівала наш інтэлект» (газета «Літаратура і мастацтва» 24 студзеня 1992 г.). Як сведчаць гэтыя ўспаміны, навучанне ў інстытуце ішло па праграмах, якія не зведалі ні польска-нямецкай, ні савецкай ідэалагічнай цэнзуры. Студэнты далучаліся да вытокаў гісторыі культуры Беларусі, яе звычаяў і традыцый. Настаўнікі былі рупліўцамі на ніве нацыянальнай асветы, сапраўднымі інтэлігентамі і патрыётамі.

Сёння мы можам чытаць многія сведчанні вучняў Барыса Кіта, іх цёплыя словы ўдзячнасці свайму дырэктару, якія яны выказалі праз 50 гадоў на сустрэчы ў Маладзечне ў ліпені 1992 года. «Барыс Кіт запомніўся вучням як неардынарны, высокаадукаваны чалавек, які актыўна

падтрымліваў розныя ініцыятывы вучняў... Не раз настаўнік засцерагаў нас ад рызыкоўных, неабачлівых учынкаў. Не ўсведамлялі мы тады, як нялёгка было нашаму дырэктару: над ім навісла смяротная пагроза не толькі з боку акупантаў, але і ад «сваіх». У пасляваенны час савецкія ўлады жорстка распраўляліся з выкладчыкамі школ тыпу нашай. Магчыма, прадбачачы гэта, Барыс Кіт вырашыў пакінуць Беларусь... Дзякуючы такім людзям, як Барыс Кіт, Іван Давідовіч, В. Магер, Г. Вяршынскі, у гэтай школе сфарміраваўся і мой грамадзянскі светапогляд, які, нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці, дапамог стаць свядомым беларускім мастаком. Варта спадзявацца, што з часам будзе створана праўдзівая і аб'ектыўная гісторыя трагічнага лёсу беларускай адукацыі ў паднявольныя часы. Павінна быць дадзена і належная ацэнка дзейнасці тых людзей, якія самаахвярна служылі справе выхавання беларускай моладзі. І безумоўна, што ў гэтай слаўнай плеядзе паплечнікаў на ніве нацыянальнага адраджэння імя Барыса Кіта зойме пачэснае месца!» (Кастусь Харашэвіч, мастак. «Наш дзень», 21 ліпеня 1992 г.).

Сам Барыс Уладзіміравіч лічыць, што гісторыя Маладзечанскага гандлёвага інстытута — гэта гісторыя краю ў час акупацыі. «Яго заснаванне, кароткі перыяд дзейнасці, людзі, якія тварылі яго гісторыю ў такія цяжкія гады, — незабыўная старонка жыцця Бацькаўшчыны, — гаварыў ён на сустрэчы, выказваючы словы ўдзячнасці сваім вучням за добрую памяць аб ім. — Яна паказала, як, поўныя жыцця і светлых памкненняў, вы ў свае маладыя гады ўсведамлялі сябе часткай беларускага народу, перажываўшага пакутныя старонкі сваёй гісторыі пад нямецкай акупацыяй. Вы даказалі сваёй вучобай, што можаце супрацьстаяць нямецкай ідэалогіі з яе падзелам на вышэйшую і ніжэйшую расу, што вы — дастойныя людзьмі звацца...»

# ЭМІГРАЦЫЯ

# І НАВУКОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У ЗША

# (1944—1972)

У 1944 годзе Барыс Кіт з сям'ёй выехаў на Захад. Цяжка было пакідаць Радзіму, дзе столькі распачата добрых спраў, столькі аддадзена сіл для беларускага школьніцтва, дзе заставаліся родныя, блізкія людзі, вучні — частка ягонай душы. Ад'язджаў ён з Лебедзева на падводзе з малым сынам і жонкай і не думаў, што ў дзень развітання з Бацькаўшчынай на чыгуначную станцыю з'явіцца вялікая грамада яго выхаванцаў, каб выказаць падзяку, павагу чалавеку, які запаліў для іх святло ведаў, даў накірунак у нялёгкую жыццёвую дарогу, і, хто ведае, можа развітацца назаўсёды. Хто тады мог падумаць, што сустрэча адбудзецца толькі амаль праз 50 гадоў, калі многіх з іх сапраўды ўжо не будзе ў жывых. Адны за навучанне ў Гандлёвым інстытуце трапілі ў ГУЛАГ, другія, каб выжыць, утойвалі той факт, што яны вучыліся пры нямецкай акупацыі, многія выехалі за мяжу, а некаторым удалося пераадолець усе перашкоды і, дзякуючы грунтоўным ведам, набытым у інстытуце, стаць сапраўднымі прафесіяналамі, як доктар медыцыны, прафесар П. М. Кузюковіч, выкладчыкі Ганна Зянько, Соф'я Макоўская, Яраслаў Касцюк, хірург У. Саўрук, мастак К. Харашэвіч.

Барысу Уладзіміравічу пашчасціла на эміграцыі: ён і там меў магчымасць займацца настаўніцкай дзейнасцю. Прыроджаны педагог, ён навучаў, выхоўваў моладзь, пачынаючы ад школ да універсітэтаў. На эміграцыі ён не згас, а ўспалымнеў творча, не згубіўся ў шматлікім, разнамоўным і супярэчлівым свеце чужыны, дзякуючы настойлівасці,

ведам, характару, быў і застаўся беларусам, пачаў здабываць сабе і Радзіме гонар і славу. Яго дзейная, працавітая, цярплівая натура працягвала тварыць гісторыю ўласнага жыцця, якая яркай, змястоўнай старонкай упісвалася ў гісторыю чалавецтва.

Напачатку Барыс Кіт з жонкай і сынам трапіў у Бавару, горад Офенбах-Ліндаў, а пазней у Мюнхен. Выкладаў матэматыку ў эміграцкіх гімназіях. У ваколіцах Мюнхена знаходзіўся лагер для перамешчаных асобаў, дзе жылі ў асноўным украінцы. Тут была заснавана ўкраінская нацыянальная гімназія, дзе Барыс Кіт на працягу трох гадоў навучаў дзяцей матэматыцы. Адначасова вучыўся і сам на факультэце медыцыны Мюнхенскага універсітэта (1945—1948). І вельмі дарэчы цяпер было веданне нямецкай мовы, якую ён вывучаў яшчэ ў студэнцкія гады. Адным з найбольш здольных яго вучняў ва ўкраінскай гімназіі быў Юры Ольхіўскі, які пазней стаў вядомым амерыканскім вучоным, прафесарам Джорджстаўнскага універсітэта ў Вашынгтоне.

Аднак трэба было думаць пра пастаяннае месца пражывання. Лагер для перамешчаных асобаў — гэта часовы прыпынак, магчымасць агледзецца, усвядоміць сваё становішча і вырашыць, куды накіравацца, дзе знайсці надзейны прытулак, працу, якая б адпавядала духоўнаму складу, бо высокая мараль, уласцівая Барысу Кіту, была для яго найважней за матэрыяльныя выгоды, хаця для паўнацэннага і свабоднага чалавечага жыцця гэта таксама важна і неабходна.

І ён прыняў рашэнне пераехаць у Амерыку. Было няпроста аднаму з першых вырвацца з эміграцкіх лагераў у Германіі.

Дапамаглі дакументы аб нямецкіх праследаваннях падчас ягонай дзейнасці ў беларускім школьніцтве.

Але, не маючы ні родных, ні знаёмых у ЗША, трэба было знайсці «спонсара-арганізацыю», якая б дапамагла ў пераездзе і першапачатковым уладкаванні ў далёкай

краіне. І такая арганізацыя знайшлася — «Сусветная помач царквы». Барысу Кіту і ягонай сям'і ўдалося пры яе падтрымцы ажыццявіць свае намеры. Можна толькі здагадвацца, якія пакутліва-супярэчлівыя пачуцці валодалі яго душой, калі ён з жонкай і сямігадовым сынам ступіў на хісткую палубу парахода і праз некаторы час упершыню ўбачыў славутую статую Свабоды ў Нью-Йоркскім марскім порце, і яму нясцерпна захацелася, каб параход павярнуў назад, зноў павёз яго бліжэй да Радзімы. Можа ў гэты момант яму прыгадалася, як ён ва ўзросце свайго сына разам з маці пакідаў галодны і халодны паслярэвалюцыйны Петраград у перапоўненым абяздоленымі людзьмі вагоне. І цяпер, на параходзе, яму думалася пра бясконцыя цяжкасці — рэвалюцыі, войны, рэпрэсіі, разбурэнні, якія вымушана перажываць Бацькаўшчына, што ніяк не спрыяе нармальнаму жыццю простых людзей. Расстанне з Радзімай заўсёды цяжкае, тым больш, калі не ведаеш, ці вернешся да яе парога...

Але падзея адбылася. Першыя крокі на амерыканскай зямлі Барыс Кіт зрабіў у самым канцы 1948 года. Пасля знаходжання ў Нью-Йорку на працягу двух тыдняў ён даведаўся, што ў суседнім гарадку Саўт-Рывер пражываюць некалькі даўно прыехаўшых (яшчэ пасля першай сусветнай вайны) суродзічаў з Лебедзева Маладзечанскага павета. І Барыс Уладзіміравіч разам з сям'ёй пераязджае ў Саўт-Рывер, знаходзіць кватэру ў нейкай спадарыні Корсак, якая мела тое ж прозвішча, што і ягоная жонка. Сярод старэйшых эмігрантаў ствараецца кола знаёмых, якія імкнуліся дапамагаць новапрыбыўшым землякам усім, чым толькі маглі. У хуткім часе Барыс Кіт уладкоўваецца ў фармацэўтычную фірму, дзе першыя тры месяцы працаваў у аддзеле прадукцыі, а потым быў пераведзены ў лабараторыю хімікам, кантраляваў якасць лекаў, што прадукаваліся ў гэтай фірме. Лабараторыя знаходзілася ў некалькіх кіламетрах ад Саўт-Рывера, у суседнім гарадку Нью-Брансвік. Ён быў шчаслівы ад усведамлення,што змог

выехаць з Еўропы, ад пасляваенных разбурэнняў і матэрыяльнай неўладкаванасці. Аднак думкі аб многіх суродзічах, якія засталіся ў Нямеччыне, не пакідалі Барыса Кіта. І ён пачынае шукаць шляхі, усялякія магчымасці, каб садзейнічаць іх пераезду ў Амерыку. Нечаканая дапамога прыйшла зверху. У 1949 годзе тагачасны амерыканскі прэзідэнт Гары Трумэн выдаў загад аб перасяленні двухсот тысяч эмігрантаў з лагераў перамешчаных асобаў з Германіі. Працэдура фармальнасцяў перасялення значна спрасцілася. Дастаткова было, каб чалавек, які пражываў у ЗША, падпісаў пасведчанне, што бярэ на сябе ўсе пачатковыя клопаты, звязаныя з перасяленнем, — знайсці кватэру і працу, сустрэць эмігрантаў. Барыс Кіт ухапіўся за такую рэдкую магчымасць. На працягу кароткага часу ён выпісаў сотні пасведчанняў для беларусаў, пражываўшых тады ў Нямеччыне. Паколькі самому нельга было столькі запрашэнняў падпісваць, то гэта рабілі па ягонай просьбе іншыя жыхары Саўт-Рывера. Асабліва шмат Барысу Кіту ў такой міласэрнай справе дапамагалі два маладыя беларусы — Шаўроўскі і Філіповіч (абодва ўжо памерлі). Амаль штодзень Барысу Уладзіміравічу даводзілася ехаць у порт Нью-Йорк, каб сустракаць сваіх землякоў. Ягоная кватэра ў Саўт-Рывере зрабілася перавалачным пунктам, пакуль не было знойдзена памяшканне (транзітка), дзе прыбыўшыя беларусы жылі пэўны час: шукалі сабе патрэбную кватэру альбо дом, працу пры дзейснай дапамозе Барыса Кіта. Дарэчы, пасылаў ён запрашэнне Хведару Ільяшэвічу — беларускаму паэту, літаратару, рэдактару беларускай газеты ў Беластоку, свайму добраму і даўняму знаёмаму, але ў той дзень, як прыйшло запрашэнне, здарылася няшчасце: Хведар Ільяшэвіч загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Сям'я Ільяшэвічаў засталася ў Польшчы (цяпер яго дачка жыве ў Шчэціне). Барыс Кіт выпісаў настаўніка Вадэйку, былога дырэктара гімназіі ў Баранавічах, хірурга Шчорса, якога потым выбралі віцэ-прэзідэнтам амерыканскага медыцынскага таварыства, кампазітара Міколу Куліковіча,

але той прыслаў ліст падзякі і, прыехаўшы ў Амерыку, застаўся ў Нью-Йорку, святара Лапіцкага, які заснаваў беларускую праваслаўную царкву ў Саўт-Рыверы, настаўнікаў Вольгу Пазняк-Сяднёву, сваю вучаніцу па Віленскай гімназіі, Дарафейчыка (дзед фізіка В. Зарэцкага з Беларусі, які цяпер жыве ў Германіі) і многіх іншых беларусаў. Аднак не так проста і лёгка было эмігрантам, якія не валодалі мовай краіны пражывання, атрымаць працу. Барыс Кіт і тут дапамагаў, чым мог. Ён, ведаючы французскую і нямецкую мовы, даволі хутка авалодаў ангельскай мовай і, дзякуючы таму, што ў Віленскім універсітэце студыяваў фізіку і хімію, а ў Мюнхене некаторы час навучаўся медыцыне, атрымаў уплывовую пасаду ў фармацэўтычнай фірме. Гэта давала яму магчымасць уладкоўваць многіх землякоў на працу ў розныя яе аддзелы. (Некаторы час тут, да прыкладу, працаваў вядомы беларускі пісьменнік Юрка Віцьбіч).

Ужо ўладкаваныя беларускія эмігранты, у сваю чаргу, выпісвалі з Нямеччыны родных і знаёмых. Колькасць беларусаў хутка павялічвалася. Многія пасяляліся ў суседніх з Саўт-Рыверам Нью-Брансвіку, або Пасэйку, ці ехалі ў Нью-Йорк. Так, «дзякуючы намаганням Барыса Кіта, у Саўт-Рыверы паўстала найвялікшая сёння беларуская калонія ў ЗША». (Уладзімір Брылеўскі «70-годдзе прафесара Барыса Кіта», газета «Беларус» № 276, 1980). Вітаўт Кіпель у сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША», якая выйшла ў Мінску (1993), таксама адзначае ролю Барыса Кіта — заснавальніка першай беларускай калоніі ў ЗША ў пасляваенныя гады: «Іншыя беларусы, якія прыбылі ў Злучаныя Штаты неўзабаве пасля вайны, як прыкладам, д-р Барыс Кіт, не толькі арганізавалі дзейнае кола людзей, якія маглі падрыхтаваць неабходныя паперы імігрантам, але й запачаткавалі першыя паваенныя арганізацыі ў беларускіх асяродках. Дзейнасць гэтых пачынальнікаў распачала ланцуговую рэакцыю. Тыя, хто прыбылі крыху пазьней, знаходзілі новых спонсараў і арганізацыі, якія

аблягчалі пераезд у Амэрыку новым беларускім імігрантам. Працэс гэты набіраў размах у канцы 1948— пачатку 1949 году».

Каб прыдаць больш арганізаваную форму беларускаму руху ў ЗША, быў створаны Беларуска-Амерыканскі Дапамогавы камітэт, і Барыс Кіт стаў адным з першых яго старшыняў. Вось якую інфармацыю дае пра дзейнасць гэтага камітэта ў сваёй кнізе Вітаўт Кіпель: «... Арганізацыя была зарэгістраваная ў Олбані, штат Нью-Ёрк, пад назовам «Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамогавы Камітэт» 8 лістапада 1948 года. («United Byelorussian-American Rilief Committee»).

Мэтаю арганізацыі было дапамагаць беларусам у працэсе эміграцыі і ўсталяваньня ў Злучаных Штатах. Камітэт шукаў спонсараў для імігрантаў і вёў актыўную кампанію ў справе гуртаваньня новапрыбылых суродзічаў. Паступова арганізацыя пачала сацыяльную, культурную і палітычную дзейнасьць — ладзіла літаратурныя вечарыны, лекцыі ангельскае мовы, дапамагала шукаць працу, а таксама заснавала перыядычны друк: часапісы «Беларус у Амэрыцы», «Беларускае слова ў Амэрыцы» і газэту «Беларуская трыбуна». Гэта былі першыя паваенныя беларускамоўныя перыёдыкі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Камітэт заснаваў аддзелы ў Пасэйку і Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі; Норт-Холівудзе, штат Каліфорнія; у Нью-Ёрку.

Старшынямі камітэту былі д-р Іван Ермачэнка (1948—1949), д-р Барыс Кіт (1949—1950), д-р Мікола Шчорс (1950—1951), а. Мікалай Лапіцкі (1951—1976), а. Сьвятаслаў Коўш (1976—1988), а. Мечыслаў Брынкевіч (ад 1988 году).

Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамогавы Камітэт працягвае сваю дзейнасць і сёння. Ён набыў друкарскае абсталяванне й ад 1960 году дапамагае ў друку гадавога перыядычнага выданьня «Беларуская думка». Камітэт вядзе шырокую сацыяльную, культурную й адукацыйную

дзейнасьць, а таксама ў неабходных выпадках выказвае беларускія палітычныя погляды й патрэбы».

Барысу Кіту ў ягонай дзейнасці арганізатара і заснавальніка беларускай калоніі шмат у чым дапамагалі ўкраінцы. Яны часта выступалі як беларусы, асабліва на першым часе, калі беларусы яшчэ не паспелі прыехаць у Амерыку. Барыс Кіт умеў ладзіць з рознымі людзьмі, для яго была важнай духоўная, унутраная сутнасць чалавека, а не нацыянальнасць ці палітычныя погляды. І таму, калі ў Саўт-Рывер пачалі прыязджаць беларусы розных партыйных напрамкаў, ён усё ж меў надзею, што можа тут, у чужой краіне, яны аб'яднаюцца, будуць разам. На жаль, чым больш іх прыязджала, тым большыя пачыналіся спрэчкі, разыходжанні. Яднання не атрымлівалася, і Барыс Кіт у поўным расчараванні і з іншых прычынаў вырашыў пакінуць Саўт-Рывер і пераехаць у Лос-Анджэлес, Каліфорнія (1950). Тут ён таксама арганізаваў беларускую групу, выступаў ад яе імя на ўкраінскіх і літоўскіх урачыстасцях, паколькі ў гэтых мясцінах былі моцныя літоўскія і ўкраінскія зямляцтвы. Надзейным памочнікам яго ў такіх справах быў Часлаў Найдзюк, юрыст па адукацыі, былы вучань Барыса Кіта па Віленскай беларускай гімназіі, які таксама эмігрыраваў у Амерыку. Ён брат Язэпа Найдзюка — аўтара падручніка па беларускай гісторыі і дзеяча беларускай Хрысціянскай партыі ў Вільні. Пазней прыехалі многія іншыя беларусы, у тым ліку і мінчане. Барыс Кіт і Часлаў Найдзюк узялі на сябе ролю беларускага прадстаўніцтва, вялі актыўную работу па згуртаванню беларусаў, якія прыбывалі ў Каліфорнію найчасцей па запрашэнню Барыса Кіта. Гэта была першая ў Каліфорніі беларуская хваля эміграцыі, якую аб'яднаў і стварыў Барыс Кіт дзеля прысутнасці беларусаў і ў гэтай частцы Амерыкі. Беларуская дзейнасць працягвалася тут і надалей, калі ён пераехаў у Вашынгтон.

Аднак не гэтая дзейнасць была цяпер галоўнай для Барыса Кіта. Нядоўгі перыяд жыцця ў Саўт-Рыверы быў

своеасаблівым трамплінам перад яго ўзыходжаннем на вяршыні навуковай кар'еры. У вольным свеце кожнаму чалавеку, вядома ж, напачатку неабходна зарыентавацца, агледзецца, зразумець, на што ён здольны і чаго можа дасягнуць. Аказалася, што талент, веды, адукацыя Барыса Кіта, атрыманыя на Беларусі, — моцны, надзейны грунт, які можа даць добры плён. Першыя гады ў Лос-Анджэлесе ён працягвае працаваць па спецыяльнасці хіміка ў розных фірмах. 1950 год азнаменаваўся яшчэ адной важнай падзеяй у сям'і Кіта: нарадзіўся яго другі сын — Віктар. Тут жа ў Лос-Анджэлесе пачынаецца касмічная эра ў навуковай дзейнасці Барыса Кіта, калі ён уладкоўваецца на працу ў славутую амерыканскую фірму «North American Aviation (цяпер «Rockwell International»), якая стварала амаль усе найбольш выдатныя амерыканскія касмічныя і аэранаўтычныя праекты, пачынаючы ад першых стратэгічных, інтэркантынентальных ракетных сістэмаў, як «Navaho», праз найбольш бліскучы праект XX стагоддзя «Apollo» (падарожжа чалавека на Месяц) да сённяшняга чаўночнага касмічнага карабля «Shuttle». Трэба адзначыць, што гэтая фірма мела аддзел аэранаўтыкі, дзе былі распрацаваны такія самалёты, як Р-54, што дапамаглі перамагчы гітлераўскую Германію, скончыць другую сусветную вайну, і дзе ствараліся праекты сучасных ракетных самалётаў.

Барыс Кіт адразу трапіў у сапраўдную навуковую атмасферу і працаваў на працягу 25 гадоў у галіне касмічных даследаванняў ЗША. У якасці матэматыка і сістэмнага аналітыка ўдзельнічаў у некалькіх важнейшых праграмах развіцця міжкантынентальных ракетных сістэм. Але пачынаў ён са знаёмства з працай высокаінтэлектуальных людзей, для якіх былі створаны ідэальныя ўмовы, вывучаў навуковую літаратуру, уваходзіў у кола іх даследаванняў. Яго незвычайна захапляла, узвышала адчуванне, што ён належаў да вышэйшай амерыканскай навуковай эліты.

Кіраўніцтва фірмы, улічыўшы практычны вопыт Барыса Кіта як хіміка ў дадатак да прафесійнай адукацыі фізіка і матэматыка, даручыла яму даследаваць магчымасць ўжывання плыўкага вадароду для сістэмы «Navaho». Гэта былі тыя піянерскія часы, калі ўжыванне плыўкага вадароду належала да рэчаў, пра якія можна было толькі марыць. Найбольшай цяжкасцю ў гэтых даследаваннях было тое, што плыўкі вадарод хутка выпарваўся: ён меў вельмі нізкую тэмпературу, а па-другое, ён заўсёды з'яўляўся ў дзвюх формах — арта-вадарод і пара-вадарод. Арта-форма сама пераходзіла ў пара-форму, выдзяляючы вялікую колькасць цеплыні. Уваходзячы ў гэтыя праблемы, Барыс Кіт адчуваў сябе тут пачынальнікам. Ён цалкам аддаўся працы, праседжваў у бібліятэках, перачытваў навуковую літаратуру, правёў вялікую колькасць аналізаў і на гэтай аснове напісаў рэферат, выступіў з навуковым дакладам, які выклікаў агульную зацікаўленасць. Папярэднія вынікі былі добрымі, абнадзейваючымі, і таму вырашана было працягваць даследаванні якасцей плыўкага вадароду як будучага ракетнага паліва.

Гэта была першая навуковая праца Барыса Кіта, якая мела значны ўплыў на пазнейшыя даследаванні аб плыўкім вадародзе, што заахвоціла яго далей займацца праблемамі ракетнага паліва, якое цяпер стандартна ўжываецца ў вялікіх ракетных сістэмах «Apollo», «Shuttle». Акрылены навуковымі дасягненнямі ў такой важнай галіне, Барыс Кіт вырашыў напісаць першы ў гісторыі навукі падручнік аб усіх магчымых палівах для ракетных сістэмаў. Фірма поўнасцю яго падтрымлівала ў гэтых пачынаннях. Кніга выйшла ў 1960 годзе з прадмовай славутага вучонага, стваральніка сучаснай аэрадынамікі Тэадора фон Кармана, з якім Барыс Кіт быў асабіста добра знаёмы. Кніга была выдадзена ў прэстыжным выдавецтве «Macmillan Company» ў Нью-Йорку пад назвай: «Rocket Propellant Handbook». Яна хутка разышлася па ўсім свеце разам з імем аўтара — Барыса Кіта. Мела шмат станоўчых рэцэн-

зій, у якіх адзначалася важнасць падручніка, як першай з'явы ў гэтай галіне, тым больш, што благаславіў яго ў навуковы ўжытак сам Тэадор фон Карман. Генерацыі ракетных інжынераў карысталіся гэтай кнігай, яе і сёння выкарыстоўваюць як неабходны дапаможнік тыя, хто займаецца праблемамі касмічных даследаванняў. У 1962 годзе ў Савецкім Саюзе быў выдадзены падручнік Я. М. Паушкіна «Химия реактивных топлив» у выдавецтве Акадэміі навук СССР, у якім ёсць спасылкі на працы Барыса Кіта, на ягоны грунтоўны падручнік. Пазней, у 1987 годзе, у часопісе «Astronautik» быў апублікаваны артыкул Барыса Кіта «Мае асабістыя ўспаміны пра Тэадора фон Кармана», дзе расказваецца не толькі пра жыццёвы шлях і навуковую дзейнасць выдатнага вучонага, сустрэчы і супрацоўніцтва Барыса Кіта з фон Карманам, але і пра той час, калі вяліся даследаванні ракетнага паліва, пісалася кніга па гэтых праблемах. Асновай артыкула з'явіўся даклад, з якім Барыс Кіт выступіў у Брайтане (Англія — 1987) на Астранаўтычным кангрэсе. Вось невялікія ўрыўкі з гэтых успамінаў: «Я пазнаёміўся з доктарам Тэадорам фон Карманам у 1958 годзе на Астранаўтычным кангрэсе ў Амстэрдаме і быў уражаны даступнасцю, прастатой гэтага вялікага чалавека... Ён па-сяброўску, уважліва ставіўся да кожнага, хто з ім знаёміўся, цікавіўся праблемамі, якімі той або іншы вучоны займаўся, уваходзіў у асабістае жыццё, не шкадаваў часу для людзей... Перш чым напісаць прадмову да маёй кнігі, ён захацеў прачытаць яе і папрасіў прынесці на наступны дзень у гатэль. У прызначаны тэрмін я прыехаў да яго і ўбачыў у пакоях доктара Кармана шмат журналістаў і вучоных. Гэта быў час, калі Савецкі Саюз запусціў свой першы штучны спадарожнік Зямлі і ўсе задавалі славутаму вучонаму бясконцыя пытанні. Убачыўшы мяне, доктар Карман спыніў гутарку з журналістамі і пачаў роспыты пра маю кнігу, дзейнасць у даследаванні космасу. Ён быў задаволены, што выданне маёй навуковай работы падтрымлівае «Nort American Aviation», фірма, дзе я быў

на службе, і тым, што я добра ведаў яго вучня Эдварда ван Дрыеста — выдатнага вучонага-даследчыка.

Пасля Першага Астранаўтычнага кангрэса ў Амстэрдаме я вярнуўся ў Вашынгтон, дзе кіраваў важным даследчым праектам для Міністэрства паветраных сілаў ЗША. Я шмат часу праводзіў у бібіліятэцы Кангрэса ў Вашынгтоне. І доктар Карман, ведаючы гэта, папрасіў мяне рабіць выпіскі з тых публікацый, якія яго цікавілі. У хуткім часе доктар Карман сам прыехаў у Вашынгтон з лекцыямі, патэлефанаваў мне і папрасіў прынесці выпіскі па ракетнаму паліву, якія яму спатрэбіліся для выступлення ў Кангрэсе. Ён запрасіў мяне да сябе, каб параіцца па гэтых пытаннях, але я выказаў здзіўленне, чаму менавіта мяне, а не іншага спецыяліста ў гэтай галіне, на што атрымаў адказ: «Усё ў парадку, доктар Кіт, я прачытаў вашу кнігу па ракетнаму паліву вельмі ўважліва, напісаў прадмову да яе і лічу вашу кнігу самым лепшым даведнікам па гэтых праблемах. Яна задавальняе мяне цалкам. Між іншым, доктар Кіт, я сёння яшчэ не снедаў. Ці павінен я і для вас паставіць прыбор? Што б вы хацелі з'есці?»

Я адказаў згодай і хутка быў у гатэлі. Доктар Карман ішоў мне насустрач са сваёй спальні ў халаце і быў босы. Цяжка было паверыць, што гэты маленькі чалавек стаў заснавальнікам сучаснай аэрадынамікі і звышгукавой эпохі. Мы елі сняданак і абмяркоўвалі пытанні, патрэбныя доктару Карману для даклада ў Кангрэсе ЗША.

На наступны дзень у час вячэры я спытаў у Кармана, ці шмат пытанняў было пасля яго даклада ў членаў Кангрэса. Ён паглядзеў на мяне і, усміхаючыся, адказаў: «Барыс, сенатары ў мяне пыталіся толькі пра розніцу паміж плыўкім і цвёрдым ракетным палівам». Пазней я часта сустракаўся з доктарам Карманам у Вашынгтоне і нават аднойчы ўладкоўваў яго сваякоў, якія прыехалі з Венгрыі. Сяброўскія, сардэчныя адносіны ўсталяваліся паміж намі. У час маіх паездак у Еўропу я наведваў фон Кармана ў Парыжы (ён працаваў старшынёй камітэта па астранаўтыцы пры НАТО,

прасіў ацаніць новыя астранаўтычныя ідэі маіх сяброў і супрацоўнікаў па «North American Aviation («Rockwell International»), выказаць меркаванні.

У канцы свайго жыцця доктар Карман вельмі цікавіўся гісторыяй астранаўтыкі. У размовах, дакладах, выступленнях ён пастаянна згадваў эпізоды з гісторыі ці літаратуры. Асабліва яму падабаліся кнігі Жюля Верна і прадбачанні пісьменніка-фантаста тэхнічных адкрыццяў (падводнай лодкі, тэлебачання, палёту на Месяц). У 1962 годзе я слухаў даклад доктара Кармана ў Вашынгтоне на Кангрэсе міжнароднага геаграфічнага года. Ён выказваў захапленне апісаннем палёту на Месяц Жуля Верна, які ўказаў нават месца запуску месячнай ракеты — пункт 27°7' паўночнай шыраты і 77°3' заходняй даўгаты (па Грынвічу), дзе сёння блізка знаходзіцца цэнтр мыса Кенэдзі, адкуль запускаюцца амерыканскія касмічныя караблі. На жаль, доктар Карман не змог парадавацца паспяховаму палёту амерыканцаў на Месяц: ён памёр на 6 гадоў раней.

Акрамя Жюля Верна фон Карман цікавіўся Гарэтам П. Сэрвікам, амерыканскім пісьменнікам XIX стагоддзя, які таксама пісаў фантастычныя творы. Карман здзіўляў сваіх слухачоў выключнай памяццю і веданнем мастацкай літаратуры. Тут я дапамагаў яму ў пошуках старых часопісаў і газет, дзе калісьці публікаваліся творы Гарэта П. Сэрвіка. Я знайшоў газету «Бостон пост», амаль спарахнелую ад часу, у якой была надрукавана аповесць «Падарожжа на Марс», у бібліятэцы Кангрэса, зрабіў копію і прынёс доктару Карману. Ён быў проста шчаслівы, атрымаўшы гэту знаходку, выкарыстаў яе для пацвярджэння сваіх некаторых навуковых здагадак і гіпотэз, а мне быў вельмі ўдзячны за мой, як ён лічыў, уклад у яго даследаванні. Гэта быў апошні раз, калі я бачыў доктара фон Кармана — цудоўнага чалавека, выдатнага вучонага і сябра».[1]

---

[1] Dr. phil. Boris Kit «Meine persönlichen Erinnerungen an Theodore von Karman». Astronautik. Heft. 1, 1987, s. 17.

У 1957 годзе адбылася гістарычная падзея сусветнага значэння — Савецкі Саюз ажыццявіў запуск першага спадарожніка Зямлі. Гэта ўскалыхнула ўвесь свет. Многія вучоныя, адзначаючы поспех савецкіх даследчыкаў у галіне касманаўтыкі, пісалі: «Вырашыць паспяхова такую складаную задачу, як запуск першага спадарожніка, магла краіна, якая мае немалую колькасць спецыялістаў і вялікі навукова-тэхнічны патэнцыял...» І далей: «Чалавецтва ўдзячнае Каралёву за здзейсненае. Атрымаць прызнанне чалавецтва — значыць быць выдатным дзеячам навукі і культуры». (Герман Обэрт — адзін з піянераў ракетнай тэхнікі, удзельнік стварэння першага амерыканскага спадарожніка, з 1958 года жыў у ФРГ). «Калі рускія запусцілі такі спадарожнік — 83,6 кілаграма, значыць яны могуць падняць і больш цяжкі». (Джозеф Каплан — узначальваў нацыянальны камітэт ЗША па правядзенню міжнародных геафізічных даследаванняў). «Чалавек больш не прыкаваны да сваёй планеты». (Фрэдэрык Жаліо-Кюры — французскі фізік). «Савецкія вучоныя шмат зрабілі для развіцця сусветнай касманаўтыкі, далі моцны імпульс яе далейшаму імкліваму руху наперад». (Барыс Кіт). Дарэчы, Барыс Уладзіміравіч атрымаў у падарунак кнігу Германа Обэрта «Шлях да падарожжа ў космас» ад старшыні Нямецкага Астранаўтычнага таварыства Густава Штааца, з якім ён знаёмы больш за 30 гадоў і мае вялікую перапіску ў нямецкай мове.

Герман Обэрт — гігант у сусветнай касмічнай тэхніцы. На свеце ёсць яшчэ двое такіх вучоных: рускі — Канстанцін Цыялкоўскі і амерыканец — Роберт Годард — аўтар многіх вынаходніцтваў у розных галінах ракетнай тэхнікі.

Незвычайна шырокі рэзананс ад запуску першага спадарожніка Зямлі ўспрымаўся ў свеце як вялікае дасягненне чалавечага розуму, выключнага таленту. Амерыканцы, уражаныя тым, што не яны першыя запусцілі спадарожнік, актывізавалі сваю дзейнасць у гэтым напрамку. Прэзідэнт Амерыкі паставіў задачу: апярэдзіць савецкіх вучоных у

касмічных даследаваннях. Было паклікана да супрацоўніцтва шмат вучоных, ракетных экспертаў з усіх канцоў Амерыкі. Барыс Кіт найлепш падышоў, бо працаваў у гэтай сістэме, да таго ж добра ведаў рускую мову. У 1958 годзе ён быў выкліканы з Лос-Анджэлеса ў Вашынгтон і пачаў працаваць у Міністэрстве паветраных сілаў ЗША, у аддзеле касманаўтыкі. У дадатак на маладога, перспектыўнага вучонага былі ўскладзены і абавязкі дзяржаўнага дарадчыка, эксперта па развіццю міжнароднай касманаўтыкі, галоўным чынам, савецкай. Ён пачаў весці гэтыя сувязі ва ўласцівай яму памяркоўнай манеры добразычлівага стаўлення да людзей, тым больш, што валодаў незвычайнымі якасцямі характару — камунікабельнасцю, цярплівасцю, дыпламатычнасцю. Увесь час, будучы над палітыкай, ён не адчуваў ніякай варожасці да сваёй былой краіны, не быў нацыяналістам, спрыяў міралюбству, у душы захоўваў нязгасную любоў да Радзімы. Савецкі спадарожнік, можна сказаць, дапамог Барысу Кіту выйсці на сусветную арбіту. У Вашынгтоне ён студыяваў поспехі ў касманаўтыцы іншых краін, пісаў рэфераты, пачаў ездзіць на міжнароныя кангрэсы, выступаць з дакладамі. У гэты перыяд адбываюцца сустрэчы і знаёмствы Барыса Кіта са славутымі людзьмі. З Вернерам фон Браўнам — нямецкім вучоным (пачынаў навуковую дзейнасць у Германіі, пасля вайны ў Амерыцы працягваў распрацоўваць ракетную тэхніку), як і з Тэадорам фон Карманам, Барыс Кіт упершыню сустрэўся на Міжнародным кангрэсе ў Амстэрдаме (1958), але больш блізка яны сышліся на Вашынгтонскім сусветным касмічным форуме. Калі Барыса Кіта прадстаўлялі Вернеру фон Браўну, той сказаў: «Доктар Кіт, вам не трэба другі раз прадстаўляцца, я ўжо знаёмы з вамі па вашых працах». І Карман, і Браўн, нягледзячы на сваю геніяльнасць, былі без комплексаў вялікасці, нішто чалавечае не было ім чужое. Вакол іх групаваліся таленавітыя людзі, якіх прыцягвалі не толькі гучныя імёны вядомых ва ўсім навуковым свеце вучоных, але і даступнасць, звычайнасць. Барыс Кіт,

добра ведаючы напрамкі іх дзейнасці, адчуваў, што Тэадор фон Карман (1881—1963) больш вучоны (былы прафесар Гетынгенскага універсітэта, пачынаў сваю навуковую кар'еру ў Германіі, з прыходам Гітлера да ўлады эмігрыраваў у ЗША. Напісаў шматлікія работы па самалёта- і ракетабудаванню, аэра-, гідра- і тэрмадынаміцы і інш.), тады як Вернер фон Браўн (1912—1977) больш адміністратар, арганізатар навукі. (Пачынаў як канструктар ракет, адзін з кіраўнікоў германскага ваенна-даследчага ракетнага цэнтра ў Пэнемюндзе, дзе была створана ракета А-4. У 1945 годзе эмігрыраваў у ЗША. Тут пад яго кіраўніцтвам распрацаваны ракеты «Рэдстоўн», «Юпітэр», ракеты-носьбіты «Сатурн» для касмічнага карабля «Apollo»). Пазней Барыс Кіт супрацоўнічаў з Браўнам і як вучоны, і як перакладчык у сустрэчах з рускімі і многімі іншымі вучонымі. Дарэчы, Барыс Уладзіміравіч добра ведае і здаўна знаходзіцца ў сяброўскіх адносінах з прафесарам Фрэдэрыкам Ордвэем — аўтарам многіх кніг у галіне гісторыі астранаўтыкі, былым супрацоўнікам і сааўтарам прац Вернера фон Браўна. Фрэдэрык Ордвэй — заснавальнік Міжнароднай федэрацыі астранаўтыкі ў 50-х гадах, а цяпер ён працуе ў міністэрстве энергіі ў Вашынгтоне начальнікам аддзела спецыяльных праектаў, з'яўляецца старшынёй секцыі гісторыі Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, дзе Барыс Кіт часта выступаў з навуковымі рэфератамі. Фрэдэрык Ордвэй — вядомы вучоны ў Амерыцы і ва ўсім свеце — рэкамендаваў Барыса Кіта акадэмікам у Міжнародную Акадэмію Астранаўтыкі.

У 1960 годзе ў Рочэстэры (ЗША) адбыўся Міжнародны кангрэс фізікаў-ядзершчыкаў. У перыяд яго падрыхтоўкі Барысу Кіту патэлефанавалі з Дзярждэпартамента і прапанавалі стаць каардынатарам, кіраўніком групы 50 савецкіх вучоных, якія прыбылі на гэты кангрэс. Тут і адбылося яго першае знаёмства з Д. Блохінцавым, Н. Багалюбавым, А. Благанраваым, Г. Будкерам, В. Векслерам і іншымі вядомымі савецкімі акадэмікамі, знакамітымі

талентамі, даследчыкамі ў галіне ядзернай фізікі і касмічных даследаванняў. З Германіі на кангрэс прыехаў Вернер Гейзенберг — стваральнік квантавай механікі, Нобелеўскі лаўрэат, прыбыў амерыканскі фізік Роберт Опенгеймер — бацька першай атамнай бомбы, якая была створана пад яго кіраўніцтвам у ЗША.

Групу савецкіх вучоных Барыс Кіт суправаджаў па Амерыцы, знаёміў з яе экзотыкай, выдатнымі мясцінамі. Пабывалі яны і ў Каліфарнійскім універсітэце Бэрклі (прыгарад Сан-Францыска), які, дарэчы, мае каля 50 сваіх філіялаў ва ўсіх гарадах Каліфорніі. Універсітэт Бэрклі — цэнтр ядзерных даследаванняў усяго свету. На факультэце фізікі тады працавала 17 Нобелеўскіх лаўрэатаў. Многія з іх былі першаадкрывальнікамі новых хімічных элементаў, дапоўнілі табліцу Мендзялеева. Прафесары універсітэта запрашалі савецкіх вучоных на кактэйлі, навуковыя сустрэчы. Барыс Кіт быў у цэнтры гэтых сустрэч, перазнаёміўся з усімі Нобелеўскімі лаўрэатамі. У дні паездак з рускай групай ён найбольш сышоўся з Д. І. Блохінцавым (1907—1979), фізік, дырэктар Інстытута ядзерных даследаванняў у Дубне, кіраўнік работ па стварэнню першай у свеце атамнай электрастанцыі. Напісаў шмат прац па квантавай механіцы, атамнай і ядзернай фізіцы, тэорыі ядзерных рэактараў, фізіцы элементарных часціц, метадалогіі фізікі).

Дзякуючы гэтым сустрэчам у Амерыцы, Барыс Кіт становіцца вядомым чалавекам і ў асяроддзі савецкіх вучоных, тым больш, што на аснове грунтоўнага вывучэння і асабістага ўдзелу ў развіцці і даследаванні міжнароднай касманаўтыкі, зацікаўленасці поспехамі савецкіх вучоных у гэтай галіне, ён напісаў сваю другую кнігу: «Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі», якая выйшла ў 1964 годзе. Пасля гэтага Барыс Кіт браў удзел у першых гістарычных перамовах паміж ЗША і СССР па супрацоўніцтву ў галіне касманаўтыкі, дзе зноў сустракаўся са знаёмымі вучонымі, якіх некалі курыраваў у Амерыцы. І пазней, калі

дэлегацыі савецкіх вучоных самага рознага ўзроўню прыязджалі ў Амерыку ў рамках гэтага супрацоўніцтва, ён быў нязменным удзельнікам, дарадчыкам, кіраўніком-перакладчыкам навуковых перамоў і сустрэч.

У 1963 годзе Барыс Кіт пераходзіць на працу ў аддзел касманаўтыкі Міжнароднай карпарацыі тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі (International Telephone and Telegraph Corporation). Мэтай гэтай фірмы было даследаванне і пабудова сатэлітаў сувязі. Барыс Кіт стаў дарадчыкам прэзідэнта фірмы, шмат займаўся даследаваннем метадаў сувязі з Месяцам. Гэта быў перыяд падрыхтоўкі падарожжа амерыканцаў на Месяц. Тут для Барыса Уладзіміравіча з'явілася магчымасць больш засяродзіцца на абагульненні сваіх навуковых дасягненняў, напісанні артыкулаў у астранаўтычныя часопісы, дакладаў, з якімі выступаў на Міжнародных кангрэсах касманаўтыкі.

У навуковым свеце Амерыкі існуе даўняя традыцыя — для ажыццяўлення вялікіх праектаў збіраць лепшыя сілы, ствараць часовыя калектывы даследчыкаў самага высокага прафесійнага ўзроўню. Аднак, калі работа падыходзіць да завяршэння, многія вучоныя, выканаўшы сваю задачу, вымушаны шукаць іншае месца працы. Так здарылася з калектывамі, якія працавалі над запускам касмічных спадарожнікаў Зямлі. Але працягвалася работа па вынаходніцтву пілатуемых касмічных караблёў, падрыхтоўцы палёту на Месяц, і асноўны склад даследчыкаў працаваў у гэтым напрамку. Барысу Кіту не давялося шукаць іншага занятку, яму была даручана матэматычная распрацоўка сродкаў сувязі ў гэтых праектах.

Матэматычная практыка сталася вельмі прыдатнай, калі пазней Барыс Кіт выйшаў з астранаўтыкі і працаваў у розных установах: Нацыянальным бюро стандартызацыі, Міністэрстве камерцыі, затым у штаб-кватэры арміі, у Міністэрстве камунікацый. Тут ён займаўся ў асноўным даследаваннем метадаў павышэння эфектыўнасці адміністрацыйнай дзейнасці пры дапамозе матэматыкі. Ён вырашаў

незвычайна складаныя практычныя задачы, якія прадугледжвала рацыянальнае амерыканскае грамадства, імкнучыся быць наперадзе ўсяго свету. Падчас яго працы ў бюро стандартызацыі пры прэзідэнце ЗША была створана група вучоных, куды ўвайшлі спецыялісты розных галін, у тым ліку і Барыс Кіт, для даследавання тэхналагічнага развіцця і параўнання яго паміж Еўропай (Англіяй), Амерыкай і Японіяй. Ён браў затым актыўны ўдзел у падрыхтоўцы даклада прэзідэнту Ліндану Джонсану па гэтых праблемах. Калі ў 1967 годзе ў Жэневе праводзіўся Сусветны кангрэс па стандартызацыі, Барыс Кіт быў афіцыйным амерыканскім дэлегатам на гэтым кангрэсе, абіраўся сакратаром камісіі па стандартызацыі электроннай прадукцыі (ёсць падзяка за гэту працу).

У Амерыцы, як вядома, ужываецца англійская сістэма мер, у той час як амаль увесь свет перайшоў на метрычную сістэму (да прыкладу — амерыканскія электрычныя лямпачкі нельга выкарыстоўваць у Еўропе). Барыс Кіт, як матэматык, вылічваў, колькі сродкаў з-за гэтага губляюць амерыканцы. З групай экспертаў-эканамістаў ён падлічыў, што, напрыклад, фірме «Джэнерал электрык» каштавала 6 600 мільёнаў долараў, каб перабудаваць сваю вытворчасць. Таму многія прыватныя фірмы, якія не могуць адразу перайсці на еўрапейскі стандарт, ствараюць спецыяльныя аддзелы, якія асобна выпускаюць для Еўропы сваю прадукцыю.

Такія матэматычныя разлікі, даследаванні групы Барыса Кіта пайшлі ў Кангрэс, які пастанавіў паступова пераходзіць на еўрапейскую метрычную сістэму мер, хаця прыватным фірмам не надта загадаеш.

Працуючы ў матэматычным аддзеле Міністэрства камунікацый і транспарту, Барыс Кіт вырашаў праблему, як палепшыць эфектыўнасць працы транспарту пры дапамозе камп'ютэраў, колькі будзе каштаваць перанос чыгункі за горад і многія іншыя жыццёва наспеўшыя пытанні. Дзеля гэтага ён павінен быў наладжваць сувязі з даследчыцкімі

цэнтрамі універсітэтаў, каб яны займаліся аналізам дзейнасці розных галін вытворчасці, інспектаваў іх працу. Усё гэта сведчыць, што Барыс Кіт заўсёды быў на стрыжні часу, навукова-тэхнічнага прагрэсу і, як вучоны, заўсёды знаходзіў прымяненне сваім ведам у жыцці, не замыкаўся ў вузка тэарэтычнай сферы. Уменне дапасоўваць іх да рэальнай практыкі дало магчымасць яму далучыцца да групы амерыканскіх вучоных, прафесараў і зрабіць кругасветнае падарожжа напрыканцы 60-х гадоў, выступіць з лекцыямі ў многіх краінах свету (Японіі, Індыі, Мексіцы, Іспаніі, Канадзе, Англіі, Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Германіі і інш.). Чытаў ён лекцыі і ў Польшчы, у Кракаўскім універсітэце. І тут яму не раз прыгадвалася, што побач Радзіма — Беларусь, якая ў гады яго маладосці знаходзілася пад уладай Польшчы. У 30-я гады польскі ўрад аб'явіў яго нядобранадзейным, і яму было забаронена выязджаць за мяжу, нават з турыстычнай групай. Узнікалі думкі: толькі калі вырваўся ў Амерыку, аб'ездзіў увесь свет, адчуваючы сябе вольным і патрэбным людзям.

Імкліва міналі гады ў цікавай, захапляючай дзейнасці. Аднак Барыс Уладзіміравіч знаходзіў час займацца выхаваннем сыноў, сачыць за іх навучаннем, дапамагаў набываць спецыяльнасць ва універсітэтах, матэрыяльна станавіцца на ногі. Старшы сын — Уладзімір у сваіх прафесійных прыхільнасцях пайшоў па слядах бацькі. Ён скончыў тры факультэты: палітычных навук і замежнай дыпламатыі Джорджстаўнскага універсітэта (дзе выкладалі Кісінджэр і Бжэзінскі. Уладзімір Кіт быў, дарэчы, выдатным спартсменам, чэмпіёнам Амерыкі па тэнісу), факультэт фізікі Мэрылендскага універсітэта (у 60-я гады моладзь захаплялася космасам, і Валодзя працаваў у касмічным цэнтры ў Вашынгтоне, у аддзеле даследавання спадарожнікаў) і факультэт электроннай інжынерыі універсітэта Джорджа Вашынгтона, атрымаў ступень магістра. Цяпер высокакваліфікаваны спецыяліст у камп'ютэрнай тэхніцы, працуе кіраўніком аднаго з аддзелаў Міністэрства астранаўтыкі ў

Вашынгтоне. Малодшы, Віктар, скончыў Мэрылендскі універсітэт, займаўся мікрабіялогіяй, пасля паступіў на медыцынскі факультэт, стаў выдатным хірургам, жыве ў Балтыморы. Паколькі адукацыя ў ЗША платная, то ўсе гады навучання адзіным спонсарам сыноў быў бацька. Атрымаўшы выдатныя, прэстыжныя прафесіі, малодшыя Кіты на сённяшні дзень высокааплачваемыя спецыялісты (маюць уласныя дамы, матэрыяльна стабільна забяспечаны), удзячныя бацьку за падтрымку і бескарыслівую дапамогу. Барыс Кіт усё аддаваў дзецям і цяпер з поўнай падставай ганарыцца імі. Валодзя і Віктар, самі ўжо стаўшы бацькамі, любяць збірацца разам, хаця б раз у год, і Барыс Уладзіміравіч кожны раз на Каляды імчыць са сваёй еўрапейскай далечы на спатканне з дарагімі людзьмі, радуецца сустрэчы, магчымасці пабываць у Вашынгтоне — гэтым цудоўным, прыгожым, багатым горадзе — сталіцы Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе прайшла значная і найбольш плённая частка яго жыцця.

## ПЕРАЕЗД У ГЕРМАНІЮ. ПЕДАГАГІЧНАЯ, ПРАФЕСАРСКАЯ ПРАЦА ВА УНІВЕРСІТЭТАХ ЕЎРОПЫ (з 1972 года)

Амерыка стала другой радзімай для беларуса Барыса Кіта, яна дала яму ўсё, што патрэбна чалавеку для нармальнага жыцця ў вольным свеце. Ён адбыўся тут як вучоны, здзейсніў свае мары і спадзяванні, тут выраслі і жывуць яго сыны. Аднак у сэрцы ўвесь час захоўваўся вобраз Бацькаўшчыны, хоць і затуманены доўгімі гадамі расстання. Можа таму, выйшаўшы на пенсію, Барыс Кіт выбраў для сталага пражывання Германію, еўрапей-

скую краіну высокай культуры і высокага ўзроўню жыцця. Усё ж бліжэй да Радзімы, куды ён, нягледзячы ні на што, думаў вярнуцца! Дарэчы, ён ніколі не забываў пра Беларусь, заўсёды цікавіўся яе жыццём, добра ведаў шматпакутную гісторыю Бацькаўшчыны, бо сам быў удзельнікам і відавочцам многіх гістарычных падзей.

У 1972 годзе Барыс Кіт пераязджае ў Франкфурт-на-Майне — незвычайна прыгожы, старажытны горад, былы цэнтр свяшчэннай Рымскай імперыі, а цяпер найсучаснейшы цэнтр Еўропы, дзе па-нямецку рацыянальна спалучаюцца далёкая гісторыя і дзень сённяшні і які праз супермадэрны міжнародны аэрапорт звязаны з усімі сталіцамі свету (што, відаць, немалаважна пры мабільнасці, непаседлівасці Барыса Уладзіміравіча). Па вуліцах Франкфурта ідзеш, як па старонках гісторыі, дзе старыя гатычныя будынкі суседнічаюць з высотнымі гатэлямі, офісамі, банкамі. Велічную прыгажосць гораду надаюць шырокі Майн, масты, утульныя пешаходныя вуліцы з яркімі, багатымі вітрынамі шматлікіх магазінаў, помнікі славутым людзям, музеі, скверы і паркі, чыстыя, дагледжаныя набярэжныя і жылыя кварталы, дзе шмат кветак, зеляніны і ні адзін дом не паўтарае другі, усё радуе і цешыць вока.

Барыс Уладзіміравіч пасяліўся ў Франкфурце-на-Майне, аднак не дзеля таго, каб цешыцца прыгажосцю і дабротамі Германіі, жыць размераным спакоем заслужыўшага свой адпачынак чалавека. Ён адразу распачаў тут педагагічную дзейнасць, якая амаль не перапынялася з часоў школьніцтва на Беларусі. Таленавіты педагог, выдатны матэматык, Барыс Кіт і ў Вашынгтоне, нягледзячы на занятасць навуковай, даследчыцкай працай, выкладаў матэматыку ў Мэрылендскім універсітэце ў Калэдж-Парк на вячэрнім факультэце. Тут вучыліся дарослыя людзі, якія хацелі мець вышэйшую адукацыю. Мэрылендскі універсітэт разгарнуў свае філіялы па ўсяму свету (існуе прымаўка, што ў Мэрылендскім універсітэце не заходзіць сонца). Каля

600 такіх філіялаў ёсць у Еўропе, шмат іх у Японіі, Аўстраліі, іншых краінах, у асноўным там, дзе раскватараваны амерыканскія войскі, кампактна жывуць амерыканцы.

Барыс Кіт мог працаваць у любым з гэтых цэнтраў, як выкладчык з вялікім вопытам. Ён меў першакласныя характарыстыкі і падзякі рэктарата Мэрылендскага універсітэта ў Вашынгтоне. Але ён выбраў Франкфурт-на-Майне, стаў прафесарам матэматыкі Еўрапейскага аддзела Мэрылендскага універсітэта, мэтай якога было абслугоўваць амерыканцаў, што пражываюць у Еўропе. Сярод яго вучняў шмат амерыканцаў, якія сталі затым вядомымі вучонымі. Пазней Барысу Кіту было нададзена званне заслужанага прафесара Мэрылендскага універсітэта — найвышэйшая адзнака і прызнанне яго заслуг у педагогіцы. Звычайна цырымонія заканчэння навучальнага года адбываецца ў Гейдэльбергу, галоўным Еўрапейскім цэнтры Мэрылендскага універсітэта. Студэнты тут атрымліваюць дыпломы бакалаўраў, і ў гэты ж дзень кожны год аднаму з прафесараў уручалі Ганаровы дыплом доктара (яго мелі Адэнаўэр, Брант, маюць Коль і Геншар). У 1987 годзе Барысу Кіту быў уручаны дыплом Заслужанага прафесара на адным з такіх актаў, а ў 1990 годзе ў гэтым жа Гейдэльбергу Барыс Кіт атрымаў дыплом Ганаровага прафесара.

Адначасова з педагагічнай дзейнасцю ў Еўропе Барыс Кіт пачаў працаваць над доктарскай дысертацыяй.

З даўніх гадоў Барыса Кіта цікавіла гісторыя навукі, жыццё вялікіх людзей, таленавітых вучоных, навукоўцаў. Таму і абраў ён тэму пра жыццё і дзейнасць аднаго з найвялікшых матэматыкаў XX стагоддзя Антона Зыгмунда. Афіцыйным кіраўніком дысертанта згадзіўся стаць прафесар Рэгенсбургскага універсітэта, таксама вядомы ў навуковым свеце матэматык Тод. Ён зняў клопат дакументальнага афармлення са свайго дысертанта. Рэгенсбургскі універсітэт прызнаў усе дыпломы Барыса Кіта,

у тым ліку і дыплом Віленскага універсітэта. Барыс Кіт мог спакойна працаваць над доктарскай, якую паспяхова абараніў у 1982 годзе на вучоным савеце Рэгенсбургскага універсітэта. Яна выйшла асобнай кнігай (1983) пад назвай: «Antoni Zygmund, his life and his contribution to the mathematics of 20th century». Барыс Кіт правёў вялікую працу па збору і апрацоўцы матэрыялаў пра жыццё і навуковыя дасягненні Антона Зыгмунда (1900—1991), у якога абаранілася каля 100 дысертантаў, у тым ліку 38 дактароў навук. Славуты матэматык нарадзіўся ў Варшаве, там жа скончыў школу. У гады імперыялістычнай вайны разам з бацькамі знаходзіўся на Украіне. Пасля вяртання ў Варшаву (1919) паступіў на матэматычны факультэт універсітэта. Навуковым кіраўніком А. Зыгмунда ва універсітэце быў вядомы польскі матэматык С. Сакс (1897—1943), які пазней стаў яго калегам. У 1920—1930 гады А. Зыгмунд стажыраваўся ў Англіі ў якасці стыпендыята фонду Ракфелера. Тут ён працаваў з такімі вядомымі матэматыкамі, як Хардзі і Літлвуд. У 1930 годзе А. Зыгмунд пераязджае на работу ў Вільню, ва універсітэт Стэфана Баторыя, а ў 1940 годзе эмігрыруе разам з жонкай і сынам у ЗША, дзе працуе да канца жыцця. У атрыманні амерыканскай візы ў той складаны час яму дапамагалі прафесары Тамаркін, Вінер, Нейман.

Асноўныя навуковыя інтарэсы А. Зыгмунда, як і яго настаўніка С. Сакса, звязаны з тэорыяй функцый сапраўднага і комплекснага пераменных і функцыянальным аналізам. Ягоныя вынікі аказалі і працягваюць аказваць значны ўплыў на развіццё розных раздзелаў сучаснага матэматычнага аналізу. Менавіта ў канструктыўнай тэорыі функцый добра вядомы клас функцый А. Зыгмунда і няроўнасць Зыгмунда для вытворчай трыганаметрычнага палінома, у метрычнай тэорыі функцый — тэарэма Зыгмунда аб спалучаных функцыях, у тэорыі сінгулярных інтэгралаў — метад Кальдэрона-Зыгмунда, у функцы-

янальным аналізе — тэарэма Зыгмунда аб інтэрпаліраванні аператараў.

Кніга А. Зыгмунда «Трыганаметрычныя рады» стала своеасаблівай энцыклапедыяй вынікаў і метадаў розных раздзелаў тэорыі функцый. Першае выданне гэтай кнігі выйшла ў 1935 годзе ў Варшаве, а другое, значна дапоўненае і перапрацаванае, — у 1959-м у Кембрыджы. За мінулы час яна неаднойчы перавыдавалася ў розных краінах, у тым ліку ў СССР. Да сённяшняга часу гэта кніга застаецца актуальнай і рэдка ў якім артыкуле, прысвечаным тэорыі функцый, не цытуецца.

Вучнямі А. Зыгмунда з'яўляюцца такія вядомыя матэматыкі, як І. Марцінкевіч, М. Вейс, Р. Коэн, Б. Макенхаўпт, А. Кальдэрон, Е. Стэйн і інш. Яны славутыя ва ўсім навуковым свеце сваімі выдатнымі дасягненнямі ў галіне матэматыкі. Тэарэмы І. Марцінкевіча і Рыса-Торына сталі асноўнымі вынікамі тэорыі інтэрпаліравання аператараў. На вялікі жаль, лёс І. Марцінкевіча, якога называлі польскім Эварыстам Галуа, склаўся трагічна. Ён пражыў усяго 30 гадоў і загінуў разам з польскімі афіцэрамі ў Катыньскім лесе пад Смаленскам ад рук савецкіх нкусаўцаў (НКВД). Е. Стэйн і М. Вейс унеслі істотны ўклад у развіццё гарманічнага аналізу функцый многіх пераменных. У тэорыі сінгулярных інтэгралаў шырока вядома даследаванне Б. Макенхаўпта. Р. Коэн рашыў славутую праблему кантынуум-гіпотэзы.

Гэты сціслы агляд доктарскай дысертацыі Барыса Кіта дае магчымасць уявіць напрамкі дзейнасці матэматычнай школы Антона Зыгмунда і яго паслядоўнікаў. Сваёй кнігай доктар Б. Кіт садзейнічаў развіццю гісторыі навукі. Яна выклікала ўсеагульную зацікаўленасць тых, хто займаецца матэматычнымі даследаваннямі. Пасля выхаду яе ў свет Барыс Кіт атрымаў навуковае званне доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі, што азначала павелічэнне прэстыжу, прафесійны рост. Гэта было афіцыйнае афармленне яго вялікай, шматгадовай дзейнасці

навукоўца і педагога, адкрывала доступ да звання прафесара, акадэміка. Увесь перыяд жыцця ў Германіі, нягледзячы на занятасць выкладчыцкай справай, напісаннем дысертацыіі, Барыс Кіт працягваў займацца і навуковай дзейнасцю, публікаваў у часопісах Амерыкі і Германіі навуковыя артыкулы (іх выйшла звыш 30), быў пастаянным дэлегатам усіх Міжнародных Астранаўтычных Кангрэсаў, якія адбываліся амаль штогод, пачынаючы з 1958 года выступаў з дакладамі і паведамленнямі. Як удзельнік гэтых кангрэсаў, ён пабываў у Амстэрдаме, Токіо, Парыжы, Афінах, Брэмене, Нью-Йорку, Канстанцы, Бруселі, Вене, Зальцбургу, Мюнхене, Кобленцы, Луізіяне, Інсбруку, Брайтане, Малазе, Дрэздэне, Манрэалі, іншых гарадах і краінах. Тут завязваліся новыя знаёмствы, цікавыя сустрэчы, гутаркі з вядомымі ва ўсім свеце людзьмі: вучонымі, даследчыкамі, касманаўтамі. У кастрычніку 1978 года на Астранаўтычным Кангрэсе ў Мюнхене Барыс Кіт пазнаёміўся з беларускім касманаўтам Пятром Клімуком. Сустрэліся два славутыя беларусы, і Барыс Уладзіміравіч з вялікай зацікаўленасцю распытваў свайго земляка пра Беларусь, яе жыццё, падзеі, радуючыся магчымасці гаварыць на роднай мове.

Трэцяга кастрычніка 1991 года ў гатэлі Хілтан у Атаве — сталіцы Канады на ўрачыстым пасяджэнні Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі разам з Каралеўскай Акадэміяй Канады Барысу Уладзіміравічу Кіту быў уручаны дыплом акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, галоўная кватэра якой знаходзіцца ў Парыжы. Дыплом уручаў доктар Георг Мілер — прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (былы кіраўнік праекта «Apollo», падарожжа амерыканцаў на Месяц). Сумеснае пасяджэнне дзвюх акадэмій было наладжана ў сувязі з Міжнародным кангрэсам у Манрэалі. Гэта быў кульмінацыйны момант усёй астранаўтычнай і навуковай кар'еры Барыса Кіта. Рэктарат Мэрылендскага універсітэта разаслаў у сувязі з гэтым усім навукоўцам, прафе-

сарам паведамленне аб выбранні Барыса Кіта акадэмікам Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі.

Барыс Уладзіміравіч Кіт, як акадэмік з сусветным імем, удастоены гонару быць занесеным у самыя прэстыжныя навуковыя даведнікі свету. Яго біяграфія, звесткі пра навуковую дзейнасць змешчаны ў энцыклапедыі «Амерыканскія вучоныя» («Dictionary of international Biography»), у біяграфічным даведніку «Брытанская каралеўская блакітная кніга» («Royal Blue Book»), у вядомым слоўніку «Хто ёсць хто ў касманаўтыцы» («Who's who in Space»). Біяграфія Барыса Кіта разам з біяграфіямі многіх іншых славутых вучоных укладзена ў капсулу часу, якая знаходзіцца ў бібліятэцы Роберта Годарда ў Вашынгтоне (капсула будзе адкрыта праз 500 гадоў).

Так здзейсніўся Барыс Уладзіміравіч Кіт гістарычна, так стаў вядомым у гісторыі свету.

* * *

На сваёй Бацькаўшчыне ён становіцца вядомым толькі цяпер, калі Беларусь атрымала незалежнасць. «Для мяне гэта галоўная падзея XX стагоддзя, — гаворыць Барыс Уладзіміравіч. — Нарэшце, пасля тысячы гадоў змагання, цярпення, няволі, усялякіх акупацыяў, наш народ атрымаў сваю незалежнасць, поўную суверэннасць, прызнаную ўсімі іншымі народамі. Такога яшчэ не было ў нашай гісторыі». Гэту вялікую падзею Барыс Уладзіміравіч адзначыў прыездам на Радзіму, што выклікала хвалю публікацый, успамінаў, сустрэч з тымі, хто быў знаёмы з ім у маладыя гады. І, вядома ж, была наладжана сустрэча настаўніка з былымі вучнямі ў Маладзечне, на якой не было канца радасным і сумным успамінам:

«Я і некаторыя жыхары нашага горада добра памятаем Барыса Уладзіміравіча, калі яму было крыху больш за 30 год. Гэта быў вельмі інтэлігентны чалавек. Тактоўны ў адносін як да навучэнцаў, так і выкладчыкаў школы. Руп-

лівы ў арганізацыйных справах і па-бацькоўску чулы да кожнага з нас, юнакоў і дзяўчат, якія наведвалі гэту школу як з самога Маладзечна, так і з навакольных вёсак. Адчувалася, што галоўнай рысай усёй яго дзейнасці была шчырая адданасць асветніцкай справе ў плыні нацыянальнага адраджэння сярод беларускай моладзі...»

«...Майму пакаленню пашчасціла мець вас за настаўніка, які аддаваў сваё здароўе і сілу, каб адукаваць нас, малодшых, паставіць на шлях да лепшае будучыні, зрабіць нацыянальна свядомымі. Наша падзяка вам бязмежная...»

«...Мяне кранула і ўзрушыла, што за такі доўгі час вы не забылі Радзіму і беларускую мову і цяпер так актыўна дапамагаеце нам перажыць цяжкі час...»

«...Гэта быў нялёгкі шлях — пачаць у чужой краіне з нуля і дасягнуць такіх вышынь...»

«...Аб вашай дабрыні, чалавечнасці ў мяне засталіся самыя светлыя ўспаміны. Памятаю, як вы ў чорным гарнітуры, малады, прыгожы, дэманстравалі на адным з інстытуцкіх вечароў, як трэба танцаваць мазурку...»

«...Цяжка ўявіць: праз паўвека мы сустрэліся з вамі, дырэктарам, якога паважалі і любілі... Вы — чалавек, які не можа жыць спакойна, для сябе. Вы, відаць, народжаны рабіць дабро. Такіх людзей на свеце мала...»

Былы вучань Барыса Уладзіміравіча, цяпер прафесар медыцыны, вядомы на Беларусі хірург Пётр Маркавіч Кузюковіч, расказваючы аўтару гэтых радкоў пра гады навучання ў гандлёвым інстытуце і пра сустрэчу з Барысам Уладзіміравічам, захапляўся унікальным талентам свайго настаўніка выкладаць матэматыку, выключна даходліва тлумачыць гэты складаны прадмет вучням. І ўжо пазней, калі Пётр Маркавіч сам стаў навучаць студэнтаў, ён цалкам пераняў методыку выкладання Барыса Кіта-педагога. Ніколі не думаў прафесар, што яму давядзецца пабачыць свайго настаўніка, пра якога нічога не чуў усе гэтыя 50 гадоў. З гонарам за беларусаў гаварыў ён пра вялікія

здольнасці Барыса Кіта як вучонага, які змог стаць паплечнікам і працаваць разам з сусветна вядомымі людзьмі, захаваўшы свой патрыятызм, любоў да Бацькаўшчыны, што выхоўвалася ў яго з маладых гадоў. «Кіт мог бы, — гаварыў прафесар Кузюковіч, — скончыўшы універсітэт, пайсці працаваць у любую польскую прэстыжную школу, але вырашыў вучыць бедных беларускіх дзяцей. І ў перыяд вайны, калі ён арганізаваў гандлёвы інстытут, мы адчувалі тут толькі свой родны беларускі дух, толькі беларускае ўзгадаванне. Гэты настрой ствараў Барыс Кіт разам з беларускімі настаўнікамі. Дарэчы, многіх з іх ён выратоўваў з лагераў ваеннапалонных, даваў прытулак і работу. Ад дырэктара залежала, што ў інстытуце былі такія дэмакратызм, з'яднанасць. Ён імкнуўся даць нам усебаковую адукацыю, асабліва гуманітарную. Працавалі факультатывы па музыцы, жывапісу, выкладалася эстэтыка, этыка. Дыплом гандлёвага інстытута даў, напрыклад, мне магчымасць паступіць у медыцынскі інстытут, і два першыя гады, калі вывучаліся агульнаадукацыйныя прадметы, мне тут не было чаго рабіць: настолькі грунтоўнай была папярэдняя падрыхтоўка.

Мяне здзіўляе і захапляе шчырая беларускасць Барыса Кіта. Другі на яго месцы задаволіўся б дасягнутым, спакойна спажываў плён сваёй нялёгкай працы і сусветнай вядомасці, а ён, нягледзячы на тое, што амаль быў забыты на Беларусі, вярнуўся, каб зрабіць штосьці карыснае для Бацькаўшчыны. Цяжка і крыўдна ўсведамляць, што такія людзі вымушаны былі пакідаць Радзіму, свой народ і працаваць за мяжой, аддаючы веды і талент чужой краіне. Але і там ён зрабіў шмат для роднай Беларусі, даказаў, што і беларусы нечага вартыя, не горшыя за іншых. Ён праславіў беларускую нацыю, якая павінна ведаць яго, як ведае і памятае сваіх слаўных сыноў».

Але не толькі са сваімі былымі вучнямі сустракаўся Барыс Уладзіміравіч улетку 1992 года, калі прыехаў на Беларусь. Ён пабываў у Акадэміі навук, пазнаёміўся з

акадэмікамі Ф. Фёдаравым, Р. Гарэцкім, членам-карэспандэнтам В. Грыбкоўскім, які падараваў яму сваю кнігу «Лазеры» (дарэчы, Барыс Уладзіміравіч асабіста ведаў Прохарава, Басава — таленавітых рускіх вучоных, даследчыкаў лазераў). Яго прыняў міністр замежных спраў П. Краўчанка, ён быў цёпла сустрэты ў калектыве Беларускай энцыклапедыі, які ўзначальваў тады Міхась Аляксандравіч Ткачоў. Вядомы вучоны, грамадскі дзеяч, да якога Барыс Уладзіміравіч ставіўся з вялікай павагай, паспеў да заўчаснай смерці пакінуць у кнізе «Вялікае мастацтва артылерыі» (серыя «Нашы славутыя землякі») сваё вызначэнне месца Барыса Кіта ў гісторыі навукі: «І сёння, гаворачы пра стваральнікаў ракетнай тэхнікі, мы павінны ўсведамляць, што сярод выдатных ракетчыкаў і інжынераў побач з беларусам К. Семяновічам, англьцам У. Конгрэвам, французам Р. Эно-Пельтры, амерыканцам Р. Годардам, немцамі Г. Обертам і фон Браўнам, рускімі К. Цыялкоўскім і С. Каралёвым назаўсёды прапісалася імя Барыса Кіта».

Скрануўся лёд адчужанасці, бяспамяцтва і на Бацькаўшчыне ў адносінах да тых, хто не па сваёй волі і без усялякай віны вымушаны быў пакідаць Радзіму. Дарэчы, першынство ў адкрыцці імя Барыса Кіта на Беларусі належыць заснавальніку Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктару Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, прафесару Адаму Мальдзісу, які звярнуўся нядаўна да прэзідэнта Акадэміі навук Л. Сушчэні з прапановай аб абранні Барыса Уладзіміравіча Кіта — акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі — замежным членам Акадэміі навук Беларусі, характарызуючы яго як актыўнага і таленавітага навукоўца ў галіне гісторыі астранаўтыкі і матэматыкі, энцыклапедыста, які валодае унікальнымі звесткамі па гісторыі адукацыі ў Беларусі, гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Сам Барыс Кіт, памятаючы сваю асветніцкую працу ў беларускім школьніцтве, напоўнены жаданнем зрабіць штосьці карыснае,

практычна-дзейснае для Бацькаўшчыны. Гэту добрую традыцыю ён ніколі не перапыняў, дапамагаў беларусам-землякам на эміграцыі: таленавітаму паэту Масею Сяднёву садзейнічаў у выданні кніг (выдаў за свой кошт у Мюнхене яго кнігу «Раман Корзюк»), матэрыяльна дапамагаў беларускаму радыё ў Аўстраліі (г. Пэрт) у станаўленні і наладжванні рэгулярных радыёперадач для беларусаў, якія жывуць на гэтым далёкім кантыненце. Ён быў адным з заснавальнікаў беларускага музея ў нямецкім горадзе Лаймэне. Дарэчы, у Берліне створана навуковая арганізацыя «Boris Kit International Science Exchange Society» («Міжнароднае таварыства для абмену навукі імя Барыса Кіта»). Гэта арганізацыя не з'яўляецца чыста беларускай, хаця на чале яе стаіць беларус — Валеры Віктаравіч Зарэцкі (нарадзіўся ў Віцебску, адукацыю атрымаў у Мінску, вучоны-фізік. Быў запрошаны для работы ў Германію).

Восенню 1992 года Кіт праз Міністэрства замежных спраў Беларусі перадаў сваю навуковую і асабістую спадчыну ў Наваградскі краязнаўчы музей, дзе адкрыты мемарыяльны пакой Барыса Кіта і дзе, дарэчы, знаходзіцца яго партрэт, намаляваны беларускай мастачкай Раісай Сіплевіч, якая надзвычай тонка і па-мастацку грунтоўна змагла раскрыць рысы свайго славутага земляка, падкрэсліць сціпласць, чалавечнасць шчырага беларуса і знакамітага вучонага. Мы бачым яго ў прафесарскай мантыі, асветленага духоўнай прыгажосцю, у глыбокай засяроджанасці. Ён быццам углядаецца ў нас добрым, праніклівым позіркам, імкнучыся зразумець, хто мы — беларусы — цяпер і куды кіруемся.

Апошнім часам Барыс Уладзіміравіч найбольш захоплены ідэяй стварэння на Беларусі нацыянальнага універсітэта. Ён распрацаваў ужо нават прыкладную праграму па ўзору славутых еўрапейскіх і амерыканскіх універсітэтаў. На яго думку, БНУ павінен мець, галоўным чынам, гуманітарны напрамак з факультэтамі:

1. Беларусістыкі: мова, літаратура, гісторыя, археалогія Беларусі.

2. Славістыкі і заходнееўрапейскай гуманістыкі.

3. Агульнай гісторыі, палітычных навук, дыпламатыі.

4. Эканомікі і камерцыі.

Адкрыццё такога універсітэта вымагаецца сучасным нацыянальным адраджэннем. Цэнтр яго павінен быць у сталіцы, але з шырока разгалінаванымі філіяламі ва ўсіх абласцях Беларусі, і найперш у гарадах Наваградак і Маладзечна, адкуль пачынаўся шлях Барыса Кіта ў вялікае жыццё. Ён цяпер увесь у пошуках спонсараў для ажыццяўлення гэтай патрыятычнай ідэі, разаслаў больш за 400 лістоў у самыя розныя фірмы, арганізацыі, пабываў у Вашынгтоне, дзе разам са сваім адвакатам Леслі Тэнэнам (акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі па законах космасу, які зусім бескарысліва захапіўся ідэяй Барыса Кіта па заснаванню Беларускага нацыянальнага універсітэта) меў сустрэчы ў фондзе Сораса, у пасольствах з уплывовымі людзьмі. І ёсць ужо першыя водгукі на гэтую добрую справу.

Захоплены яго ідэяй і на Беларусі: творчая, навуковая інтэлігенцыя, выкладчыкі ВНУ горача падтрымліваюць пачынанні Барыса Кіта. Створаны камітэт рэалізацыі ідэй славутага вучонага, падрыхтаваны праект пераўтварэння Мінскага інстытута культуры ў Беларускі нацыянальны універсітэт, які зацверджаны на калегіі Міністэрства культуры Беларусі. І гэтая ідэя здзейснілася.

Шостага красавіка 1993 года ў гэтым інстытуце адбылася ўрачыстасць, прысвечаная знаёмству студэнтаў і выкладчыкаў з жыццём і дзейнасцю Барыса Уладзіміравіча Кіта і адначасова з нагоды дня нараджэння вучонага. Быў прыняты прывітальны адрас са словамі ўдзячнасці: «...там, за мяжою, Вы ўсёй душою з намі, дапамагаеце роднай Беларусі і словам, і справай...» Запіс гэтай урачыстасці, юбілейны адрас з віншаваннямі былі перададзены Барысу Кіту ў Франкфурт-на-Майне.

На малой радзіме Барыса Кіта ў Карэлічах 5—6 чэрвеня 1993 года праходзілі першыя Карэліцкія краязнаўчыя чытанні, арганізаваныя Карэліцкім райвыканкамам і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, дзе былі прачытаны даклады з гісторыі Карэліцкага краю, прагучалі паведамленні, расказы пра жыццё і дзейнасць славутых людзей, якіх узгадавала гэта шчодрая зямля. Барыс Кіт — яе жывая гісторыя, сучаснік і легенда для тых шматлікіх землякоў, якія прысутнічалі ў зале і якія жылі побач з яго бацькамі, блізкімі людзьмі, маглі бачыць родную сястру Барыса Уладзіміравіча — Ірыну Уладзіміраўну — прыгожую, сціплую жанчыну, незвычайна знешне падобную да старэйшага брата. Яна прыйшла паслухаць, што скажуць пра яго людзі, згадзілася паказаць месца, дзе калісьці стаяла хата Кітоў у Агародніках, якія цяпер сталі адной з карэліцкіх вуліц. Ціхая вясковая ўскраіна, зеляніна садоў, агародаў, поплаў за імі, блакіт возера, недалёкі лес. На месцы старой хаты стаіць прыгожы, дагледжаны дамок, жывуць чужыя людзі. Барыс Уладзіміравіч, калі быў тут улетку 1992 года, нічога не пазнаў на сваім былым родным паселішчы. І толькі высокая, стромкая груша і кашлатая яблыня прыветна прашумелі яму сваім лісцем у падзяку за тое, што пасадзіў іх некалі на бацькоўскай зямлі, куды ён вярнуўся з далёкіх дарог і ўжо назаўсёды...

## BOOKS

1. Kit Boris and Evered Douglas
«Rocket Propellant Handbook» (350 pp), Macmillans Company, 1960, New York, N. Y., USA (available at every major library in the USA)

2. Kit Boris and Ordway Frederick
«History and Research and Development in the field of Astronautics in the USSR» (630 pp), University of Maryland, College Park, Maryland, USA, 1964 (available at the US Library of Congress and at the Library of the Aerospace Museum, Smithsonian Institution, Washington D. C., USA), 1964

3. Kit Boris
«Antoni Zygmund, his life and his contribution to the mathematics of 20th century» (150 pp) — doctoral dissertation, University of Regensburg, 1983, Federal Republic of Germany (available at every university library in Germany and some university libraries in Europe)

## ARTICLES AND PAPERS PRESENTED AT THE INTERNATIONAL CONGRESSES

1. «What is Gravitation... Some Soviet Views», Air Force and Space Digest Magazine, February 1960, Washington D. C., USA

2. «Manned Lunar Missions by Intransit Rendezvous», International Symposium of Space Technology and Science, September 1962, Tokyo, Japan

3. «Problems in the Design of Satellite-Borne Electronically Steerable Antenna Arrays, International Symposium of Space Technology and Science, September 1963, Tokyo, Japan

4. «Prospects and Problems of Lunar Communications», Air Force and Space Digest Magazine, February 1964, Washington D. C., USA

5. «Nachrichtenverbindungen bei Mondmissionen», Hermann-Oberth-Society Annual Congress, June 1964, Darmstadt, Federal Republic of Germany

6. «Die Verwendung von elektronisch gesteuerten Richtantennen-Anlagen in Weltraum-Fernmess-Systemen», Hermann-Oberth-Society Annual Congress, June 1964, Darmstadt, Federal Republic of Germany

7. «On the Applications of Electronically Steerable Antenna Arrays to Space Telemetry Systems», US National Telemetering Conference, June 1964, Los Angeles, California, USA

8. «Some Astrodynamical Aspects of Lunar Communications Using Satellites», International Astronautical Federation Congress, September 1965, Athens, Greece

9. «On the Lifetime of the Low Altitude Artificial Satellites», Hermann-Oberth-Society Annual Congress, September 1966, Bremen, Federal Republic of Germany

10. «Die Lebensdauer von kaunstlichen Satelliten in niedrigen Umlaufbahnen», Astronautik, 1967, Hannover, Federal Republic of Germany

11. «A Survey of Operations Research in the US None-Defense Government Agencies», Operations Research Around World Meetings, August 1967, Madrid, Spain

12. «Application of Operations Research in the US None-Defense Government Agencies», Operations Research Around World Meetings, September 1967, New Delhi, India

13. «Standardization in American Space Technology», German Standardization Society Annua Congress, May 1968, Frankfurt am Main, Federal Republic of Germany

14. «Man, His Job and the Environment», US National Bureau of Standards — Special Publication No. 319, October 1970, Washington D. C., USA

15. «Normung in der amerikanischen Raumfahrt», Astronautik, 1970, Hannover, Federal Republic of Germany

16. «Normung in amerikanischer Raumfahrt», Deutschen Normenausschuss Mitteilungen, 1970, Berlin, Federal Republic of Germany

17. «Application of Artificial Satellites in Education Systems», International Astronautical Federation Congress, 1973, Baku, USSR

18. «Welche Moglichkeiten bieten sich bei Energiegewinnung aus dem

Weltraum an?», Hermann-Oberth-Society Annual Congress, June 1974, Salzburg, Austria

19. «Die kommende Epoche der Sonnenenergie», Hermann-Society Annual Congress, October 1975, Hannover, Federal Republic of Germany

20. «Moglichkeiten bei der Energiegewinnung aus dem Weltraum», Astronautik, 1975, Hannover, Federal Republic of Germany

21. «Das Verwaltungserfordernis in Bezug auf Anwendung der Ausbildungs-satelliten», Astronautik, 1975, Hannover, Federal Republic of Germany

22. «Buchbesprechung» for the book: «Raketen» by Wernher Von Braun and Frederick Ordway, Astronautik, 1979, Hannover, Federal Republic of Germany

23. «Operation Research in the US None-Defense Government Agencies», Advancing Frontiers in Operation Research, Hindustan Publication Corporation, New Delhi-7, India, 1969

24. «Environmental Education as a Critical Environmental Problem», Tomorrow Made Today-Magazine, New Delhi, India, 1977

25. «Perseonliche Erinnerungen an Theodore von Karman», Astronautik, January 1987, Hannover, Federal Republic of Germany

26. «Personal Recollections of Theodore von Karman» International Astronautical Federation Congress, October 1987, Brighton, England

27. «History of the Hermann Oberth Society of Germany», International Astronautical Federation Congress, October 1989, Malaga, Spain

28. «The Peenemeunders, Those Who Remained in Germany», International Astronautical Federation Congress, October 1990, Dresden, Germany

29. «Activities of the Peenemaeunders who Remained in Germany», International Astronautical Congress, October 1991, Montreal, Canada



**Хата, у якой нарадзіўся будучы вучоны з сусветным імем Барыс Кіт.**



Бацька і маці (справа) Б. Кіта.



**Барысу 5 гадоў (Пецярбург).**



Будынак былой Наваградскай гімназіі.



Перад пасяджэннем амерыканскага Сената ў Вашынгтоне святарамі розных канфесій чытаецца малітва. У 1968 годзе да Б. Кіта прыехаў беларускі святар Васіль (Уладзімір Тамашчык).
НА ЗДЫМКУ: айцец Васіль, сенатар Гэмфры, д-р Б. Кіт, крайні справа — беларус Ф. Бартуль у Сенаце.



Доктар Б. Кіт у Кембрыджы.



**Барыс Кіт у Індыі, ва ўніверсітэце ў Нью-Дэлі.**



**Выступленне Б. Кіта на Астранаўтычным Кангрэсе ў Германіі. 1978 год.**




Дыплом акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі Б. Кіту ўручае прэзідэнт акадэміі д-р Дж. Мілер. Канада, 1991 год.



З сынамі Валодзем і Віктарам у Вашынгтоне. 1992 год.



Б. Кіт з праўнукам.



У Акадэміі навук Беларусі Б. Кіт сустрэўся з М. Ткачовым. 1992 год.



З Вольгай і Масеем СЯДНЁВЫМІ. 1986 г.




Барыс КІТ (справа) у Ляймене, дзе адкрыты Беларускі музей.



**Барыс КІТ і Тамара КАЗЕВІЧ.**




У гасцях у сына Віктара. 1990 г.



**У Міністэрстве замежных спраў Беларусі міністр П. Краўчанка перадаў архіў Б. Кіта супрацоўнікам Навагрудскага музея.**

## ЗМЕСТ

